№ 34 (727) 14 верасня 2011

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕ

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць



## Час паліць архівы

Да палкоўніка Уладзіміра Макея і генерала Леаніда Мальцава звяртаецца іх зямляк Уладзімір Іскрык. Старонка 12.

# Не прайшло і паўгода

Новая дэвальвацыя рубля: дадатковая сесія на біржы 14 верасня. **Старонка 5.**



PHOTO.BYMEDIA.NET

Тэндэнцыі

## Лукашэнка дае задні ход




**Апазіцыі паабяцалі** План Маршала, уладам далі мільярд даляраў.

На тыдні ад Лукашэнкі прагучала, што на перамовы апазіцыю ён не запрашаў.

«Апазіцыя сядзела пад венікам, і тут раптам пачулі, што Лукашэнка нешта сказаў. Яны гэта ўспрынялі як перамовы з апазіцыяй. Я пра перамовы не гаварыў і гаварыць не збіраюся. Я ні з кім з іх не збіраюся перамаўляцца», — падкрэсліў Лукашэнка на адкрыцці вакзала ў Ждановічах пад Мінскам.

Потым кіраўнік краіны патлумачыў, што ён меў на ўвазе, калі раней казаў пра круглы стол. «Увесь палітычны спектр павінен быць прадстаўлены: і Саюз жанчын, і прафсаюзы, і нашы, і не нашы, і яны, ад улады нехта будзе», — ён робіць ласку.

З'явілася меркаванне, што платформай для такога круглага стала можа стаць так званая кансультацыйная рада пры Адміністрацыі прэзідэнта. Рада дзейнічае ўжо два гады як дэкаратыўная структура, ніякіх рашэнняў не прымала.

**Працяг на старонцы 3.**

Гаспадарка

### Пенсійная альтэрнатыва

Як павялічыць пенсію і забяспечыць сабе бязбедную старасць. **Старонка 5.**



Крымінал

### Участковага знайшлі з прастрэленай галавой

Разглядаюцца розныя версіі. **Старонка 10.**



Здарэнні

### «Дудуткі» згарэлі

Агонь знішчыў частку экспанатаў папулярнага музейнага комплексу пад Мінскам. **Старонка 10.**



Культура

### Лошыца: парк для аўтамабілістаў

Экскурсія з Сяргеем Харэўскім па рэстаўраваным парку. **Старонка 11.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Скуралупы

**Супрацоўнікі службы адлову бадзяжнай жывёлы забілі сабаку на вачах у ягонага гаспадара.**



Жыхары Мазыра Віталь Бондар і Ірына Жыгадла звярнуліся ў міліцыю адносна забойства службай адлову бяздомнай жывёлы іхняга сабакі, каралеўскага пекінэса.

Здарылася гэта ў Мазыры 10 верасня, прычым у дзень свята горада! «Раніцай я гуляў са сваім Рычы ў парку каля Прыпяці. Рычы бег наперадзе, літаральна за пяць метраў ад мяне, і раптам нейкі мужчына зрабіў крок ад прыпаркаванай машыны і накіраваў нешта ў бок майго сабакі. Я не паспеў нічога зразумець, як пачуў гучнае «плясь» і ўбачыў, што Рычы ўпаў на тратуар, пачаў біцца ў канвульсіях. У целе сабакі тырчаў нейкі шпрыц», — сказаў Бондар.

Як пазней высветлілася, гэта былі работнікі службы па адлове бяздомных жывёл разам з начальнікам участка. «Яны сказалі, што ў шпрыцы дытылін у вялікай дозе і сабаку выратаваць нельга. Тыя, хто страляў, былі на асабістым аўто, без спецадзення, сродкаў адлову (сачка, сеткі). Яны гулялі ў паркавай зоне з помпавай стрэльбай. Я забраў у іх стрэльбу, выклікаў міліцыю і потым аддаў стрэльбу следчаму», — зазначыў малады чалавек.

Ён спрабаваў выратаваць сабаку, але па дарозе да ветэрынара пекінэс памёр.

Заяўнікі просяць пакараць вінаватых у смерці сабакі.

**Алена Германовіч, БелаПАН**

## Wikileaks: Пефціеў варочаў грашыма на Мальце

**І ледзьве не стаў ганаровым консулам гэтай краіны.**

Гэта вынікае з матэрыялаў скандальнага сайта Wikileaks, што апублікаваў перапіску амерыканскіх дыпламатаў.

У верасні 2007-га амерыканскае пасольства паведамляла пра нядаўняе вяртанне ў Мінск «зброевага дылера Лукашэнкі» Уладзіміра Пефціева з Мальты разам са сваімі малалетнімі дзецьмі.

«Важны грашовы чалавек для Лукашэнкі» жыў у астраўной дзяржаве 5–7 гадоў. У перыяд свайго пражывання на Мальце Пефціеў некалькі разоў на год прылятаў у Мінск, «дзе проста ў аэрапорце яго сустракалі службы бяспекі, і жыў непасрэдна ў рэзідэнцыі прэзідэнта». Такую інфармацыю мелі дыпламаты.

Беларус ледзь не стаў ганаровым консулам краіны ЕС! Мальтыйская прэса паведамляе, што Пефціеў быў кандыдатам на гэты пост, «бо з'яўляецца персанальным коміваяжорам Лукашэнкі». Праўда, урэшце ўрад палічыў кандыдатуру «непрыдатнай».

**Паводле Belaruspartisan.org**

## Сцісла

### Цэны на паліва зноў вырастуць

Чакаецца, што цэны на нафтапрадукты павысяцца 14 верасня ў сярэднім на 3%. Як паведаміла крыніца ў нафтахімічнай галіне, цана бензіну Аі-92 складзе 4590 рублёў за літр, дызпаліва — 4 860. Гэта сёмае ад пачатку года падаражанне.

### МВФ з крэдытам пачакае

Крэдыт залежыць ад узмацнення жорсткасці макраэканамічнай палітыкі ўладаў і іх прыхільнасці да структурных рэформаў. МВФ падтрымлівае «пераход на плаваючы курс рубля, каб усталяваць адзіны абменны курс».

### Хваляванні на Трактарным заводзе

Працаўнікі малярнага цэха патрабуюць павышэння заробку. Яны звярнуліся ў незалежны прафсаюз РЭП з просьбай дапамагчы ў абароне сваіх правоў.

### У метро жанчына звалілася на рэйкі

Інцыдэнт адбыўся 12 верасня на станцыі «Фрунзенская». 60-гадовай жанчыне стала дрэнна, і яна звалілася на рэйкі проста пад цягнік. На шчасце, машыніст паспеў затармазіць. З пераломам рукі пацярпелую даставілі ў адну з клінік сталіцы. Затрымка руху склала 18 хвілін.

### У святлафораў з'явіліся ўсмешкі

Зрабілі гэта ў Магілёве для таго, каб заклікаць удзельнікаў дарожнага руху да ўзаемапавагі.

**СГ**



## Сказануў

**Савецкая сістэма была настолькі бездакорная, што дастаткова дастаць з яе адзін вінцік — і яна разваліцца.**

**Іван Антановіч, былы міністр замежных справаў Беларусі, у інтэрв'ю «Звяздзе»**

### Самае чытанае на nn.by за 7—13 верасня

1. Руслан Салей разбіўся разам з «Лакаматывам»
2. Беларусь развіталася з Русланам Салеем
3. Узлёт. За даляр на чорным рынку даюць менш за 7500
4. Дудуткі згарэлі
5. Тытул Міс Мінск заваявала 18-гадовая Ульяна Валахоўская — фоты
6. Дзень горада ў Мінску. Бязлюднае свята на фоне пахавання — фоты
7. Лукашэнка наведаў вечар памяці на «Мінск-Арэне»
8. Галоўны рабін Беларусі: «Не патрэбная нам, яўрэям, іншая ўлада»
9. Маўклівыя акцыі пратэсту пяройдуць з плошчаў на праспекты
10. Курс выйшаў на 7500. Гэта і будзе курс таргоў?

# Лукашэнка дае задні ход

Працяг са старонкі 1.

Сябар Рады, старшыня ТБМ Алег Трусаў запэўніў, што бліжэйшым часам у гэтым утварэнні адбудуцца вялікія змены. Паводле непацверджанай інфармацыі, у Раду могуць запрасіць былых кандыдатаў у прэзідэнты Яраслава Раманчука і Рыгора Кастусёва, а таксама кіраўніка перадвыбарчага штаба Някляева Андрэя Дзмітрыева.

### 2 мільярды за палітвязняў

Большасць палітвязняў таксама працягвае знаходзіцца ў калоніях і СІЗА. Хвораму Зміцру Бандарэнку нават адмовілі ў змене меры ўтрымання.

Крыніца ў польскім МЗС паведаміла газеце Rzeczpospolita, што за вызваленне палітвязняў Еўропа абяцала Лукашэнку 2 мільярды даляраў. З такой прапановай у Мінск, мяркуюць, прыязджаў балгарскі міністр Мікалай Младзенаў.

Балгарскае МЗС катэгарычна запярэчыла такой заяве.

Усё яшчэ няясна, хто быў ініцыятарам сустрэчы Лукашэнкі з Младзенавым: беларускі бок, балгарскі або еўрасаюзаўскі. Большасць фактаў сведчыць пра тое, што гэта была ініцыятыва Мінска, а ў вялікіх еўрапейскіх сталіцах да абяцанняў Лукашэнкі паставіліся з недаверам.

Менавіта таму і злілі інфармацыю пра перамовы: калі хочаце зменаў, дакажыце гэта адкрытасцю пры іх падрыхтоўцы.

### Выбары па-старому

Яшчэ адным абяцаннем лукашэнкаўцаў Еўропе быў пераход на змешаную сістэму парламенцкіх выбараў. Калі выбарцы галасуюць не толькі за асобных вылучэнцаў, але і за партыі.




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Але тут дадзены задні ход. Кіраўніца ЦВК Лідзія Ярмошына заначыла: «Бліжэйшыя выбары пройдуць паводле дзейснага выбарчага заканадаўства, і ў бліжэйшай будучыні пераходу на прапарцыйную сістэму не прадбачыцца. Калі б была магчымасць пераходу, то я б ужо дакладна атрымала даручэнне юрыдычна яе прапрацаваць».

Сігналы пра змены выбарчага заканадаўства прыходзілі з розных лагераў. Напрыклад, прагучала ініцыятыва «Белай Русі» пераўтварыцца з грамадскай арганізацыі ў палітычную партыю.

Апазіцыйныя партыі і рухі таксама асцярожна рыхтаваліся да такіх зменаў.

### «Хай мазгі не пудраць»

Беларускі бок не губляе надзеяў атрымаць крэдытную дапамогу ад МВФ. Яшчэ ў чэрвені быў складзены запыт у фонд аб дапамозе ў памеры 7 мільярдаў даляраў.

МВФ з афіцыйным адказам не надта спяшаецца. Тым не менш, можна меркаваць, што нейкая інфармацыя аб перспектывах крэдыту да кіраўніцтва краіны даходзіць.

«Ведаеце, да чаго дайшлі яны — эканамісты, фінансісты? Яны ад нас патрабуюць вызвалення палітзняволеных. Дык якое ж гэта дачыненне мае да МВФ? Вы ж займаецеся фінансамі, эканомікай» — казаў Лукашэнка.

Беларускі кіраўнік падкрэсліў, што патрабаванне аб вызваленні палітзняволеных з боку МВФ выстаўлена першым пунктам. «Вось яны і паказалі сваё аблічча», — адзначыў ён.

«Калі не — хай нам мазгі не пудраць», — разважаў Лукашэнка.

Калі грошай не дае МВФ, то іх просяць у Расіі. 12 верасня стала вядома, што новы крэдыт — мільярд даляраў — узялі праз «Беларуськалій». Такую навіну агучыў віцэ-прэм'ер Сяргей Румас.

### План Маршала

Грошы абяцаюць не толькі ўладам, але і апазіцыі. Ідэю «Плана Маршала» для Беларусі агучылі ў Варшаве, дзе на мінулым тыдні была дэлегацыя апазіцыі.

На сустрэчы з польскім прэм'ерам Дональдам Тускам было сказана, што краіны Еўрасаюза разглядаюць магчымасць прапанаваць беларусам праграму дапамогі для паскоранага развіцця эканомікі — нешта накшталт «плана Маршала», які падняў пасля Другой сусветнай вайны Еўропу з руін.

Мяркуючы па словах Туска і заявах беларускіх апазіцыянераў, праграма дапамогі будзе прадугледжваць выдзяленне крэдытаў на развіццё беларускай эканомікі, а таксама супрацоўніцтва ў галіне інвестыцый і сацыяльнай сферы.

Ну а пакуль, як паведаміў міністр замежных спраў Польшчы Радаслаў Сікорскі, ствараецца агульнаеўрапейскі фонд для падтрымкі дэмакратыі ў Беларусі. Карацей, Еўропа абяцае Беларусі шчодрую дапамогу — толькі прыходзьце да ўлады.

### Пра перадачу ўлады

Лукашэнка на гэтым тыдні чарговы раз заклінаў: «Запомніце: я ніколі нікога не баяўся і не баюся. Я не ўчора прыйшоў да ўлады. Таму, калі народ заўтра вырашыць, што будзе хтосьці іншы тут — хай сабе. Гэта ж не «бацькаўшчына».

Быў у яго ных словах і матыў аб перадачы ўлады. «Я сваіх сыноў не рыхтую спадкаемцамі на свае месца, як апазіцыя там заяўляе праз адно-го», — падкрэсліў кіраўнік дзяржавы.

**Зміцер Панкавец**

## «Яны імкнуцца атрымаць больш грошай»



Грыбаўскайце двойчы сустракалася з Лукашэнкам. Яе называлі еўрапейскай адвакаткай беларускага кіраўніка.

Прэзідэнтка Літвы Даля Грыбаўскайце **раскрытыкавала беларускую апазіцыю.**

«Калі прыглядзецца больш уважліва, то частку з дзевяці кандыдатаў, якія ўдзельнічалі ў прэзідэнцкіх выбарах, фінансаваў і падтрымліваў Крэмль», — заявіла Грыбаўскайце ў інтэрв'ю Літоўскаму радыё.

Частка прадстаўнікоў беларускай апазіцыі амаль не гаворыць пра незалежнасць краіны, а проста «імкнуцца атрымаць больш грошай», зазначае кіраўніца літоўскай дзяржавы.

«Часцей за ўсё чуем, што трэба больш грошай і што Расія, у прынцыпе, — сябар. Гэта, несумненна, выклікае ў нас пэўную занепакоенасць, бо нацыянальным інтарэсам Літвы адпавядае незалежны сусед, незалежная краіна».

Грыбаўскайце адзначылася дзвюма сустрэчамі з Аляксандрам Лукашэнкам, у тым ліку адной у часе выбарчай кампаніі. Апошнюю Лукашэнка актыўна выкарыстаў для ўласнай прамоцыі.

**Сяргей Гезгала**

Каментар

## Грыбаўскайце рэтранслюе прапаганду БТ

У 2006 годзе пракрамлёўскім кандыдатам лічылі Аляксандра Казуліна, летась — Уладзіміра Някляева і Андрэя Саннікава.

Куды трапіў Казулін і хто яго вызваліў? Крэмль?

Дзе сядзіць Саннікаў і хто за яго змагаецца? Крэмль?

Яшчэ адзін перл ад разумніцы Далі: частка прадстаўнікоў беларускай апазіцыі амаль не гаворыць пра незалежнасць краіны, а проста імкнуцца атрымаць больш грошай.

Гэтая віленская спартсменка быццам не ведае, што самай вялікай пагрозай для незалежнасці Беларусі з'яўляецца спартсмен з-пад Шклова, які аднаго разу сказаў, што Беларусь для яго — пройдзены этап і мерыўся засесці ў Крамлі.

Ствараецца ўражанне, што кіраўніца літоўскай дзяржавы папросту рэтранслюе свайго сябра з Мінска.

**Анатоль Сідарэвіч**

## Сцісла

### «Народны сход» пачнецца а 13-й гадзіне

Арганізатары плануюць правесці акцыю 8 кастрычніка ў 13 гадзін больш чым у 25 гарадах Беларусі. У Мінску мерапрыемства павінна прайсці ў парку Дружбы Народаў. На Народным сходзе плануецца абмеркаваць эканамічнае становішча ў краіне і выпрацаваць прапановы і патрабаванні ўладам.

### «Правы альянс» не займаецца палітыкай

Рада «Правага альянсу» прыняла рашэнне «спыніць палітычную дзейнасць, а таксама скасаваць усе домавы аб удзеле ў палітычных кааліцыях». «Правы альянс» мае накіраваць свае намаганні на пашырэнне нацыяналізму ў грамадстве, папулярызацыю здаровага ладу жыцця, барацьбу з алкаголізмам і наркаманіяй.

### Зміцер Дашкевіч абвясціў галадоўку

З 13 верасня палітвязень пачынае галадоўку ў Горацкай калоніі. Ён не будзе ўжываць ежу да моманту выканання адміністрацыяй калоніі наступных патрабаванняў: забеспячэнне нармальных бытавых умоваў у ШІЗА (штрафны ізалятар) і вяртанне Бібліі.

### Кітай прызнаў паўстанцкі ўрад Лівіі

Гэта адбылося нашмат пазней за прызнанне яго краінамі Захаду і іх саюзнікамі ў арабскім свеце. У самой Лівіі працягваюцца баі паміж аднапляменнікамі палкоўніка Кадафі, які кіраваў краінай 42 гады, і паўстанцамі.

**ЗП, СГ**

# БНФ увёў абмежаванні

**Партыя ўвяла абмежаванні на два тэрміны для старшыні арганізацыі. Кіраўніком зноў быў пераабраны Аляксей Янукевіч.**

XIV з'езд Партыі БНФ прайшоў малазаўважна. На гэты раз не было інтрыгі, хто ж стане старшынёй, як здаралася два папярэднія з'езды.

Гэта першы з'езд пасля сыходу з арганізацыі шэрагу знакавых асоб, такіх як Лявон Баршчэўскі, Віктар Івашкевіч, Вінцук Вячорка, Вацлаў Арэшка. Яны вырашылі арганізаваць сваю партыю — «Беларускі рух».

Гэтым разам на з'ездзе кінулася ў вочы невялікае прадстаўніцтва людзей сярэдняга пакалення. Раней лічылася, што менавіта ў БНФ гэтая праслойка наймацнейшая між беларускіх партый. Цяпер многія захацелі адысці ад актыўнай дзейнасці ці пераключыліся на іншыя арганізацыі.

У справаздачах асноўнае месца аддавалася вынікам прэзідэнцкай кампаніі. «Кастусёў з годнасцю прайшоў выпрабаванні. Я ганаруся такім кандыдатам, — сказаў Янукевіч. — Грошы не перамагаюць ідэі, мы гэта даказалі». Таксама было агучана, што за Кастусёва галасавау нават лідар посткамуністаў Сяргей Калякін.

Пра грошы гаварылася нямала. Напрыклад, намеснік старшыні партыі Ігар Лялькоў прызнаўся, што існуе татальнае безграшоўе. Пастанавілі неяк вырашаць гэтае пытанне.

У выступах дэлегатаў гучала дастаткова крытыкі ў адрас і кіраўніцтва, і самой партыі. А вось Сяргей Мальчык з Гродна адразу заявіў: «Не ныйце, хлопцы, не ўсё так кепска». Праўда, у Сойм Мальчык не захацеў.

Былі два самавылучэнцы — Раманаў з Гомеля і Васьковіч з Мар'інай Горкі. Праўда, іх кандыдатуры ніхто не падтрымаў. Выбары адбываліся на безальтэрнатыўнай аснове. Янукевіч захаваў пасаду.

Аднак дэлегаты ўвялі абмежаванне. Цяпер на пасаду старшыні можна абірацца толькі два разы на тры гады. «Не трэба нам браць прыклад з Лукашэнкі», — тлумачылі дэлегаты.

Намеснікамі засталіся Рыгор Кастусёў і Ігар Лялькоў, а таксама далучыўся Алесь Стральцоў. Чалавек вядомы ў колах нефармальнай адукацыі, а таксама касцёла, у тым ліку сваімі манархічнымі поглядамі.

Яшчэ ў шэрагі БНФ вярнулі Вячаслава Сіўчыка, выключанага яшчэ за часамі Вячоркі. «Яшчэ б Севярынца вярнулі», — уздыхнула краязнаўца з Германавічаў Ада Райчонак.

**Зміцер Панкавец**




**Аляксей Янукевіч (у цэнтры) пераабраны на пасаду старшыні. Ігар Лялькоў і Рыгор Кастусёў засталіся намеснікамі.**

# Галоўны рабін Беларусі: «Не патрэбная нам, яўрэям, іншая ўлада»

**Галоўны рабін Іудзейскага рэлігійнага аб'яднання ў РБ Аўраам Бененсон надрукаваў у «Советской Белоруссии» адкрыты ліст прэзідэнту ЗША.**

Падставай сталі «нядаўнія несяброўскія і тэндэнцыйныя выказванні [Барака Абамы] на адрас Беларусі».

«Вы сцвярджаеце, што гэтыя Вашы словы былі матываваны фактамі вынясення прысудаў у Мінску абвінавачаным у арганізацыі і ўдзеле ў падзеях 19 снежня мінулага года. Відавочна, Вашы памагатыя прадставілі Вам гэтых людзей як «мірных дэманстрантаў, якія пацярпелі з-за самавольства ўладаў», «незаконна асуджаных змагароў дэмакратыі і грамадзянскіх свабодаў». І да таго падобнае. Аднак ці так гэта на самой справе? Адважуся адназначна сцвярджаць, што зусім не так».

Рабін звяртае ўвагу, што акцыя 19 снежня была незаконнай. Але нават у гэтым выпадку органы правапарадку не перашкаджалі яе правядзенню. Па словах Бененсона, яны нават нікога не чапалі, калі «мірныя дэманстранты» скандзіравалі лозунгі аб гвалтоўным звяржэнні Урада, адкрыта заклікалі да дзяржаўнага перавароту, пагражалі фізічнай расправай сваім ідэалагічным супернікам».

«Пакуль усё абмяжоўвалася толькі словамі, якімі б процізаконнымі і правакацыйнымі яны не былі, праваахоўныя службы не ўмешваліся і давалі натоўпу магчымасць бесперашкодна бясчынстваваць».



**Аўраам Бененсон**

галоўны рабін Іудзейскага рэлігійнага аб'яднання РБ (артадаксальнае). Грамадзянін ЗША. Чатыры гады працуе ў Беларусі.

Рабін упэўнены, што дэманстрацыя была «сплянаваным і прадуманым дзеяннем, якое ставіла за мэту спробу глабальнай дэстабілізацыі абстаноўкі ў краіне». І лічыць, што асуджаныя па тых падзеях людзі атрымалі «празмерна маленькія тэрміны турэмнага зняволення».

«Што ж нам прапаноўваюць «плошчадные погромщикі» ад так званай «апазіцыі» ў выпадку, не дай Б-г, іх прыходу да ўлады? Тое, што яны прапаноўваюць, яны наглядна прадэманстравалі на плошчы: анархію, гвалт і беззаконне».

Бененсон піша пра тое, што ў некаторых краінах і сёння не гарантуецца бяспека для яўрэяў. У Беларусі ж ім не трэба наймаць ахову — краіна мірная.

«Так што не патрэбная нам, яўрэям, іншая ўлада».

А ад прэзідэнта ЗША рабін хоча аднаго: «разбярыцеся ва ўсёй сітуацыі асабіста, без пасрэднікаў».

**Кастусь Матушыч**

# Лябедзька аб'ягорыў КДБ

**КДБ не аддае яму пашпарт, але палітык выязджаў у Польшчу.**

Пашпарт у Лябедзькі забралі супрацоўнікі КДБ у ноч прэзідэнцкіх выбараў. Да красавіка лідар АГП знаходзіўся за кратамі, а па вызваленні «чэкісты» адмаўлялі ў запытах па вяртанні пашпарта. Хоць справу супраць палітыка спынілі.

Тым не менш, Лябедзька змог з'ездзіць з дэлегацыяй апазіцыі ў Польшчу, на сустрэчу з тамтэйшымі ўрадоўцамі.

«У нас працягваецца «футбольнае» спаборніцтва з КДБ, і цяпер лік 1:1. Мне яшчэ нічога не аддалі, а я ўжо выехаў, праехаў праз Беларусь, праўда, па паветры», — сказаў Лябедзька.

«Думаю, гэта стане для іх стымулам вярнуць пашпарт, бо трымаць ім яго ў сябе няма сэнсу», — адзначыў Лябедзька.

У аўторак палітыка затрымалі ў маскоўскім аэрапорце «Дамадзедава». Пасля праверкі дакументаў Лябедзьку адпусцілі на рэйс да Вашынгтона.

**ЗП**

# УладзіміраНякляева прыгаварылі да пенсіі

**Экс-кандыдату забаранілі выязджаць з Мінска, затое дазволілі хадзіць у рэстараны.**

У Ленінскі суд Мінска Уладзімір Някляеў павінен быў з'явіцца 9 верасня. На яго збіраліся накласці дадатковыя абмежаванні. Экс-кандыдат у прэзідэнты прыехаў да будынка суда, але ўсярэдзіну не ўвайшоў. Палітык зрабіў толькі заяву для журналістаў.

«Я неадназразова заяўляў, што толькі шляхам дыялогу з апанентамі і грамадзянскай супольнасцю можна выйсці з той сітуацыі, у якую яна [улада] сябе загнала. Замест гэтага ўлада працягвае рэпрэсіі нават у дачыненні да тых людзей, якія паза палітыкай, напрыклад, адвакатаў, што абаранялі ўдзельнікаў падзей 19 снежня», — сказаў Някляеў.

Сямёра адвакатаў, што займаліся справамі палітвязняў, пазбавілі ліцэнзій. У тым ліку і абаронцу Някляева Тацяну Сідарэнка.

Суд пастанавіў увесці для Някляева дадатковыя абмежаванні. Усё як прасіла міліцыя.

Лідару «Гавары праўду» забаронена пакідаць межы Мінска, наведваць сходы і мітынгі. Ён таксама павінен раз на тыдзень адзначацца ў міліцыі, а з 20.00 да 6.00 знаходзіцца дома. Некаторыя блогеры сумна пажартавалі, што паэта прысудзілі да пенсіі.

Суд толькі не падтрымаў прапанову міліцыі забараніць Някляеву наведваць рэстараны і кавярні. Пастанова не падлягае абскарджанню.

**КМ**

# Мікалая Лазавіка не пусцілі ў Малдову

**Спіс неўязных у дзеянні.**



Пра гэта паведаміў сам сакратар ЦВК у эфіры аналітычнай праграмы «Панарама тыдня» на БТ.

Лазавік мусіў узяць удзел у міжнародным семінары ў Кішынёве па выбарчаму праву. Арганізатарамі мерапрыемства з'яўлялася Рада Еўропы. Менавіта яны настаялі на адсутнасці Лазавіка ў спісе.

Мікалай Лазавік уваходзіць у спіс неўязных на тэрыторыю краін Еўрасаюза. «Але ж Малдова — гэта не ЕС, — абураўся ў эфіры Лазавік. — Мне сказалі, што адмова звязаная з Плошчай, але якое я маю да яе дачыненне? Плошча была арганізаваная еўрапейскімі краінамі».

Мікалай Лазавік разам са сваёй начальніцай Лідзіяй Ярмошынай быў уключаны Еўрасаюзам у спіс неўязных за фальсіфікацыі вынікаў выбараў.

**ЗП**

# Леанід Фармагей працаўладкаваўся

**Цяпер былы кіраўнік ГУУС Мінгарвыканкама працуе намеснікам начальніка Акадэміі Міністэрства ўнутраных спраў па страявой частцы.**

27 чэрвеня Фармагей быў вызвалены ад пасады начальніка мінскай міліцыі і залічаны ў распараджэнне міністра ўнутраных спраў. Па БТ прагучала, што ён і начальнік УУС на транспарце МУС Вячаслаў Яўстаф'еў адпраўлены ў адстаўку з-за тэракта ў мінскім метро 11 красавіка, недагляд ў расследаванні выбухаў у Віцебску, а таксама начнога пранікнення на станцыю метро «Маскоўская».

Прадстаўляў Фармагея на новай пасадзе не міністр унутраных спраў Анатоль Куляшоў, а адзін з яго намеснікаў.

**«Народная воля»**

# Пенсійная альтэрнатыва

Як **павялічыць пенсію** і забяспечыць сабе бязбедную старасць?

Сярэднестатыстычны беларускі пенсіянер атрымае ў верасні ад дзяржавы 774 700 рублёў. Гэта $100 па жнівеньскім рынкавым курсе. Добра, каб хапіла на прадукты і лекі, не кажучы ўжо пра падарункі ўнукам...

Тыя беларусы, хто ўжо знаходзяцца на адпачынку, наўрад ці змогуць павялічыць свае пенсіі, але ў астатніх яшчэ ёсць шанс забяспечыць сабе багатую старасць.

«Наша Ніва» аглядае плюсы і мінусы самых папулярных спосабаў павелічэння пенсій.

### 1. Беларускія страхавыя фонды

Добраахвотным пенсійным страхаваннем у нашай краіне пакуль што займаюцца толькі чатыры кампаніі. Гэта «Стравіта», «Беларускі народны пенсійны фонд», «Пенсійныя гарантыі» і «Сёмая лінія», прычым доля трох апошніх на рынку невялікая. Яны працуюць гэтаксама, як і фонды па ўсім свеце. Збіраючы з чалавека грошы на працягу доўгага часу, яны абавязуюцца выплачваць яму пенсію ў старасці, а ў выпадку смерці застрахаванага чалавека выдаць грошы яго сям'і.

Правядзём падлікі на прыкладзе праграмы «Універсальная пенсія+» ад кампаніі «Стравіта», якая ўваходзіць у склад «Белдзяржстраха». Напрыклад, 30-гадовы мужчына заключае дамову і ўносіць да наступлення пенсіі па $20 штомесяц. Агулам яго выплаты складуць $7200. Першыя дзесяць гадоў пенсіі ён атрымлівае ад фонду па $150 у месяц, а пасля да смерці — яшчэ па $108.

Ёсць і рублёвыя прапановы, якія нават улічваюць афіцыйную інфляцыю. Напрыклад, плацячы па 50 тысяч рублёў кожны месяц на працягу тых самых 30 гадоў, можна атрымаць дадатковую пенсію ў 800 тысяч рублёў, памножаную на афіцыйную лічбу інфляцыі.

Разам з пенсійным страхаваннем звычайна за дадатковую аплату афармляецца страхаванне жыцця. У выпадку заўчаснай смерці кліента (нават праз месяц пасля заключэння дамовы) ягоныя сваякі атрымаюць усю суму выплаты.

Апроч таго, згодна з беларускім заканадаўствам, людзі, якія добраахвотна застрахаваліся на тэрмін ад пяці гадоў, атрымліваюць падатковы вылік. Іншымі словамі, не плацяць падаходныя падаткі.

Самае балючае пытанне — магчымыя рызыкі беларускага страхавання. Калі ў айчыннай эканоміцы столькі ўсяго адбываецца за паўгода, чаго чакаць за 20—30 гадоў? Ашчаджэнні ахоўваюцца ўказам прэзідэнта настолькі ж, наколькі і дэпазіты. Гэта значыцца, што фармальна гарантуецца 100%-ае вяртанне грошай, але ўсе разумеюць, што такіх сродкаў у дзяржавы проста няма. Апроч таго, гарантуецца вяртанне толькі ўкладзеных грошай, без уліку працэнтаў.

### 2. Замежныя страхавыя фонды

Падобныя прапановы маюць і сусветна вядомыя заходнія кампаніі. Узровень даверу да іх больш высокі, хоць працэдурных праблем і пытанняў узнікае як мінімум столькі ж. Варта ведаць, што на тэрыторыі Беларусі афіцыйна забароненая дзейнасць страхавых кампаній са 100% замежным капіталам. Таму ў нашай краіне можна працаваць толькі з іх прадстаўнікамі, а страхавую дамову заключаць праз Расію ці Украіну.

Пры ўзнікненні страхавога выпадку (інваліднасці ці няшчаснага выпадку) медыцынскія дакументы патрабуюць натарыяльна завераната перакладу, а юрыдычныя спрэчкі будуць вырашацца на тэрыторыі краіны, дзе зарэгістравана кампанія. Нарэшце,



Беларусы сталага веку рэдка аказваюцца мільянерамі.

са страхавых выплат, атрыманых з-за мяжы, трэба плаціць падаткі.

### 3. Доўгатэрміновы дэпазіт, а пасля жыццё з працэнтаў

Высокія стаўкі ў беларускіх банках робяць уклады ў валюце спакусліва прывабнымі. Калі ў Еўропе апяруюць лічбамі 1-3% гадавых, то ў нас — нашмат большымі. $5000, пакладзеныя пад 10% гадавых на пяць гадоў, дадуць прыбытак $3000. Калі паклапаціцца пра дэпазіт загадзя, то да надыходу пенсіі можна жыць з працэнтаў, пакінуўшы асноўную суму ў спадчыну дзецям і ўнукам. Прычым, у адрозненне ад пенсійнага страхавання, неабавязкова чакаць, пакуль узрост дасягне 55 ці 60 гадоў і пойдуць выплаты. Урэшце, сярэдняя працягласць жыцця мужчыны складае ўсяго 65 гадоў — траціна не дажывае да пенсійнага ўзросту.

Пытанне пра надзейнасць укладаў нічым не адрозніваецца ад сітуацыі са страхавымі фондамі.

### 4. Замежная пенсія

Найяскравейшы прыклад ўдалага вырашэння пенсійнага пытання — палітык граф Прушынскі, які хацеў балатавацца на пасаду прэзідэнта Беларусі ў 1994 годзе. Каранямі ён з Беларусі, але ўсё жыццё пражыў у Канадзе, таму атрымлівае пенсію гэтай краіны. Яна ў шмат разоў перавышае сярэдні заробак у Беларусі.

Калі вы легальна жылі і працавалі некаторы час за мяжой, даведайцеся, ці маеце вы права на пенсійныя выплаты. Па беларускіх мерках яны могуць быць істотнымі. Напрыклад, у суседняй Польшчы сярэдняя пенсія складае каля $500, а мінімальная — $250.

### 5. Стаць чыноўнікам, вайскоўцам, КДБшнікам і г.д.

Напрыклад, зараз дэпутацкая пенсія складае каля 4 мільёнаў рублёў. Згадзіцеся, на такія грошы пражыць можна. Вось толькі ці заўжды будуць яе плаціць?

**Ягор Марціновіч**

# У канцы тыдня ў абменніках з'явіцца валюта?

**Курс** ізноў стане свабодным.

14 верасня Беларуская валютна-фондавая біржа мае правесці дадатковую сесію, на якой усе ахвотныя змогуць купіць ці прадаць валюту па рынкавым ці адносна рынкавым кошце. Як папярэдзіў віцэ-прэм'ер Сяргей Румас, улада «будзе працаваць над тым, каб курс, з аднаго боку, быў рынкавым, а з іншага боку, прымальным для суб'ектаў гаспадарання і насельніцтва». Мяркуецца, што праз дзень-два пасля гэтага даляры і еўра з'явяцца ў абменніках. Але па якім курсе? Наўрад ці зноў па 5000 рублёў...

Пра тое, што спачатку валюта будзе дарагая, папярэджваюць нават прадстаўнікі ўлады. «Курс будзе вышэй дзейснага афіцыйнага нейкі прамежак часу — гэта звычайная практыка для такога роду інструмента», — адзначае намеснік старшыні Нацбанка Тарас Надольны.

Ёсць яшчэ адно сведчанне не на карысць таннай валюты — з 14 верасня адмяняюцца ўсе абмежаванні на выстаўленне курсаў у абменніках. Іншымі словамі, адзін банк можа прадаваць даляры па 7 тысяч рублёў, а другі — за 12 тысяч. Першы час розніца можа быць вялікай, праўда, праз некаторы час курсы ўсё адно зблізяцца.

Тым часам на чорным рынку рубель пачаў імкліва ўмацоўвацца праз рэвальвацыйныя чаканні. Насельніцтва спадзяецца, што зможа купіць у абменніках танныя даляры, таму не ідзе да валютчыка. У выніку за мінулы тыдзень чорны курс упаў з 9000 да 7600—8000 рублёў. На такім самым узроўні даляр трымаецца і ў легальных віленскіх абменніках.

**ЯМ**

# Падарунак да Дня горада

10 верасня **падаражэў праезд** у маршрутках і муніцыпальным транспарце.

У Дзень горада сталічныя ўлады нарэшце зрабілі спецыфічны «падарунак» усім гараджанам. З гэтага дня цана праезду ў грамадскім транспарце ўзнялася яшчэ на 50 рублёў. Такім чынам,цяпер за талончык давядзецца заплаціць 950 рублёў. Гэта ўжо чацвёртае падаражанне з пачатку крызісу (агулам — на 58,3%).

Тым не менш, прадстаўнікі «Мінсктранса» настойваюць, што транспарт усё яшчэ акупляецца недастаткова. Паводле іх падлікаў, рэнтабельнасць складае ўсяго 46%. Згодна з праектам паступовага падаражання, цэны будуць расці штомесяц і да студзеня дарастуць да 1700 рублёў за паездку. Калі гэта насамрэч адбудзецца, атрымаецца, што талончык за год стане даражэйшы на 183%!

«Мінсктранс» разлічвае, што такім чынам удасца наблізіцца да самаакупнасці, але ўвядзенне бясплатнага праезду для студэнтаў зноў апусціць планку рэнтабельнасці.

У той самы дзень амаль на 20% узнялі цэны і маршрутачнікі. Цяпер цана праезду складае 3300 рублёў. Маршруткі даражэюць не так моцна — з пачатку крызісу тарыф падняўся роўна на 50%. Але ўсё адно прыбыткі кіроўцаў зменшыліся настолькі, што кожны пяты мікрааўтобус спыніў сваю працу.

Цана праезду ў гарадскім пасажырскім транспарце павялічыўся і ў іншых гарадах Беларусі.

**ЯМ**

## Сцісла

**Цукар падаражэў да 6000 рублёў**

Рост цаны склаў 20%, нягледзячы на неадназовыя запэўненні ўлад у тым, што цана павялічвацца не будзе да вытворчасці цукру з буракоў новага ўраджаю. Гэта ўжо чацвёртае падаражэнне на цукру сёлета.

**Стаўка рэфінансавання дасягнула 30% гадавых**

14 верасня яна вырасла ў дзявяты раз за год. Стаўкі па крэдытах дайшлі да 67,5% гадавых. Такую прапанову робіць дзяржаўны банк — «Белінвестбанк». Гэта экспрэс-крэдыт на 2 гады без паручальнікаў. Апроч таго, за выдачу наяўных давядзецца заплаціць яшчэ 3,5%. Максімальная сума — 5 мільёнаў рублёў.

**Афіцыйная інфляцыя на 1 верасня дасягнула 53,6%**

Згодна з падлікамі Белстата, цэны ў жніўні выраслі на 8,9%. Такая адносна невялікая лічба забяспечаная сезонным патанненнем садавіны і гародніны. За месяц найбольш падаражэлі алей (на 29%) і мяса (22,7%). За першы тыдзень верасня цэны падняліся яшчэ на 3,4%.

**ЯМ**

# «Не адной мне, усім цяжка»

Цэны на прадукты паўзуць ўгару, а з тэлевізара гучыць: разбярэмся, пакараем і ўсё будзе добра. Ці вераць людзі ў светлую будучыню беларускага эканамічнага цуду? Рэпартаж з заслаўскага рынка.



### Мяса ёсць

Першае, што кінулася ў вочы — выбар мяса ў Заслаўі ёсць. Прычым ніякага ажыятажу побач з прылаўкамі, ніякіх чэргаў і грызні — звычайны працоўны дзень.

Гандлярка з мясной лаўкі тлумачыць, што ў іх усё спакойна, мяса хапае, але цэны выраслі. Калі ў красавіку свіны філей каштаваў 25 тысяч, то зараз ужо 50900 за кілаграм. Але гэта нават танна ў параўнанні з Мінскам. У сталічных крамах сустракаецца ўжо цана 80 тыс. Таму ў Заслаўе перыядычна наведваюцца жыхары сталіцы па закупы. Недалёкі свет.

«Людзі па-рознаму рэагуюць на высокіяцэны, — расказвае прадавачка Галіна Петрашкевіч. — Хто ўсміхаецца, хто абураецца, а бабулькі бывае і са слязьмі стаяць, бо не могуць сабе набыць кавалак мяса. Але агулам людзі разумеюць — такія абставіны ў краіне, крызісныя».

### «Усё сышлося сёлета»

Неўзабаве каля прылаўка з'яўляецца мінчук Яўген Пышкін, які прыехаў за 30 кіламетраў ад сталіцы на лецішча, заадно завітаў і на заслаўскі рынак па таннейшыя прадукты:

«На мой погляд, тут справа ў агульнай сітуацыі ў краіне, — тлумачыць мужчына сваё бачанне сітуацыі. — За 17 гадоў... [і сумна ўздыхае — «НН»]. Усё сышлося сёлета: і цэны, і размытнёўка, і ўвесь наш агульны ўзровень. Калі раней большасць былі сярэднім класам, то зараз усе становяцца класам ніжэй. Раней наша сям'я магла сабе дазволіць болей. А цяпер? Я вось мяса набыў — перакруціцца і застанецца дзецям на катлеты. А сабе ўжо пачынаем адмаўляць».

**Уся хітрасць выжывання — трэба не на лаўцы сядзець і балакаць, а працаваць.**

### «Чаго плакаць? Бульба ёсць»

За некалькі крокаў ад мясных крамак і кіёскаў з прадуктамі размясціўся рынак стыхійны. Без ліцэнзіяў і падаткаў, папросту на асфальце на каробках расклалі свае тавары мясцовыя бабулі. Бульба, кабачкі, часнок — з агарода адразу на продаж.

Марыя Андрэеўна, напрыклад, 3 гадзіны ў лесе збірала грыбы, заблукала так, што ледзь дадому вярнулася, а цяпер прыйшла прадаваць назбіранае. Яна спа-дзяецца атрымаць хаця б 15 тыс. за вядзерца курачак, каб за гэтыя грошы набыць дадому батон і цукар. «А што зробіш, не адной мне, усім так цяжка. Усім цана аднолькавая».

Яе суседка лічыць, што ўсё ад таго, што людзі не хочуць працаваць. Уся хітрасць выжывання — трэба не на лаўцы сядзець і балакаць, а працаваць. Цэны, думае яна, выраслі таму, што хочуць іх з расійскімі зраўняць, каб не вывозілі нашы тавары за мяжу:

«Мой сын у Расіі жыве і кажа, што ў іх тое самае было, яны перажылі, і ў нас усё добра будзе. Чаго плакаць? Бульба ёсць. Многа ўсяго ёсць».

### «Па 10 тысяч даляр будуць браць»

Непадалёк пятрушку прадае Ганна Іванаўна. Яна заўважыла, што падчас крызісу людзі сталі болей кветак набываць. Напэўна, хочуць прыхарашыць такім чынам нялёгкае жыццё:

«На тыя грошы, што я сёння натаргавала, можна будзе купіць на тыдзень хлеба. А што здарылася? Даляр вырас і цэны пачалі расці. Хто гэта прыдумаў прыраўноўваць наш рубель да даляра? Навошта тыя даляры? Жылі ж без іх?»

Чаго далей чакаць ад гэтай эканамічнай сітуацыі, Ганна Іванаўна не ведае. Але, што выправіцца нешта ў хуткім часе, не верыць:

«Як Лукашэнка гэта выправіць? Калі яны выкінуць даляр нават па 10 тысяч — людзі будуць браць, хоць ён і не патрэбен ім. Можа, гэты даляр налета знікне зусім. Яшчэ не вядома, якія справы ў Амерыцы будуць».

### «Дзелімся адзін з адным»

Пенсіянерка Таццяна Трубач расказвае, што ёй па-свойму пашанцавала: пакуль жывы бацька, з дзвюх пенсій выжываюць, але хацелася б большага:

«Мяне засмучае, што я не магу выехаць за мяжу, нават у любімы Піцер. Як туды паехаць, не маючы расійскіх грошай? Атрымліваецца, мы жывём, як у турме, з-за гэтай валюты. Пры савецкім часе мы маглі ездзіць за мяжу, бо яна была закрытая. Цяпер яна адкрытая, але валюты няма».

Таццяна выйшла набыць сабе на абед кавалачак мяса, але цэны апынуліся не па кішэні. Па яе падліках, калі набываць свініну, то пенсіі хопіць толькі на тыдзень:

«Беларусы — гэта такая нацыя, што неяк стараемся выжываць, ствараць сабе аптымістычныя сітуацыі, сябраваць, адзін з адным дзяліцца, дапамагаць нават у драбязе. Адзеннем дзелімся, можа, у каго кабачок лішні, у каго бульба — сябруем. Так і выжываем.

Я разумею гэтую сітуацыю так — мы дрэнныя гаспадары ў сваёй дзяржаве. Калі б умелі добра гаспадарыць, у нас усё было б. Напрыклад, мой дзед і прадзед жылі ў вёсцы, былі заможнымі сялянамі. Яны не прасілі ніякіх даляраў, але жылі добра. Дрэнныя гаспадары — гэта не просты інжынер ці працоўны, гэта нашая ўлады і кіраўнікі».

**Настасся Шамрэй, Заслаўе — Мінск**

# У аптэках упалі продажы лекаў

Прычына — рэкамендацыя Мінздароўя не прадаваць папулярныя лекі без рэцэпта.

Некалькі тыдняў таму Міністэрства аховы здароўя пісьмова нагадала аптэкам пра адказнасць за продаж лекаў без рэцэпта і пра тое, што існуе абмежаваны спіс прэпаратаў, рэцэпт на якія не патрабуецца.

Аднак неўзабаве пасля гэтага з'явілася інфармацыя, што штрафаваць «парушальнікаў» усё ж такі не будуць. У саміх аптэках не ведаюць, як будзе.

Выйшла, што лекі, якія людзі звыкліся набываць без рэцэпта (напрыклад, антыбіётыкі і шэраг прэпаратаў ад сэрца і ціску), зараз можна набыць, толькі наведаўшы доктара.




Гэта прывяло да рэзкага скарачэння продажу лекавых прэпаратаў і чэргаў у паліклініках. Як паведамілі ў адной мінскай аптэцы, «на сённяшні дзень можна казаць пра закрыццё аптэкі».

«Калі прытрымлівацца ўказанняў Міністэрства аховы здароўя, то гэта сапраўды так. Натуральна, продажы ўпалі. Стараемся прытрымлівацца спіса безрэцэптурных прэпаратаў. Але паколькі да 2012 года нас паабяцалі не караць, то і да кліентаў ставімся паблажліва. Напрыклад, гіпертонікам мы проста з этычных перакананняў не маем права адмовіць — прыходзяць чырвоныя, у іх перадкрызавы стан», — кажуць фармацэўты.

Тым часам чуткі супярэчлівыя: адны кажуць, што можна адпускаць усё, акрамя антыбіётыкаў і наркатычных рэчываў. Іншыя ж строга прытрымліваюцца спіса безрэцэптурных прэпаратаў.

На думку фармацэўта прыватнай мінскай аптэкі, зніжэнне продажу «ўдарыць» у першую чаргу па дзяржаўных аптэках, бо ў іх значна вузейшы асартымент.

Разам з тым, як паведаміў генеральны дырэктар РУПП «Белмедпрэпараты» Віктар Залескі: «Справа ў тым, што патрабаванне прадаваць лекі па рэцэптах ніхто ніколі не адмяняў. Проста летам Міністэрства сур'ёзна за гэта «ўзялося», што выклікала хвалю пытанняў.

Нідзе ў свеце вы не набудзеце ў аптэцы нешта больш сур'ёзнае за БАД.

Калі нейкі медыцынскі прэпарат можа аказаць пабочны, шкодны эфект, то бок ужыванне яго без назначэння доктара нясе пагрозу здароўю, то выпісваць рэцэпт — гэта лагічна. Самалячэннем часам можна толькі пакалечыць сябе.

Выходзіць, што вырашэнне адной праблемы — продаж лекаў без рэцэпта — прывяло да ўзнікнення іншых — павелічэння чэргаў у медыцынскіх установах, незадаволенасці людзей.

Фармацэўты ж падлічваюць страты ў чаканні афіцыйнага пісьма ад Міністэрства аховы здароўя.

**Аксана Рудовіч**

# У мінскае метро вярнуліся лаўкі




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Іх прынялі пасля тэракта на станцыі «Кастрычніцкая».

На платформах станцый мінскага метро з'явіліся лаўкі. У прыватнасці, іх можна было пабачыць ужо 9 верасня ўвечары на станцыях «Плошча Перамогі», «Кастрычніцкая», «Плошча Незалежнасці». Канструкцыя лаваў не дазваляе штонебудзь схаваць пад імі.

Лавы са станцый прыбралі пасля тэракта на станцыі «Кастрычніцкая» 11 красавіка. «Хіба метро для таго, каб прыйсці і адпачыць? Цягнікі там ходзяць літаральна праз некалькі хвілін, 2–3 у гадзіны пік. Ну навошта? Заўжды праглядаецца натоўп. Няма лавачкі — стаіць сумка, пакет, імгненна звернуць увагу», — заявіў тады Лукашэнка.

І ўсё ж праз пяць месяцаў лаўкі вярнуліся ў метро.

**Сямён Печанко**

# Прыклад па абодва бакі калючага дроту

Зэкі ставяцца да Андрэя Саннікава з павагай, клічуць «прэзідэнт». Пра экс-кандыдата піша былы палітвязень **Алесь Кіркевіч**.

З таго часу, як у СМІ прайшла інфармацыя аб «размеркаванні» экс-кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава на «дзясятку» (Наваполацкая ПК № 10), яго чакалі з кожным новым этапам. Калі чарговы этап, з якім прыбыў я і анархіст Ігар Аліневіч, з матрацамі ды коўдрамі цягнуўся ў «каранцін», з усіх «лакалак» (камеры — «НН») у наш бок пільна ўглядаліся людзі. Ад іх даносілася: «Саннікава прывезлі?», «Апазіцыя ёсць?»

Пра Андрэя Саннікава хадзілі неверагодныя чуткі і здагадкі. У адным атрадзе, напрыклад, працэнтаў 80 зэкаў чакалі прыезду «Сальнікава». І пачыналіся размовы: «А чаму Сальнікаў?» — «А гэта паганяла, пэўна, сальнікі для аўто краў...» — «Ды не, правільна «Саннікаў» — бо камусьці «ўставіў сані»...

І вось у адзін з дзён у калоне людзей, што заехалі чарговым этапам, паказаўся высокі чалавек з пасівелай барадой. Неверагодная з'ява! Вусы і барада ў зоне пад забаронай, прычоска павінна быць максімальна кароткай. Высветлілася, што гэта экс-кандыдат ў прэзідэнты, які адразу праявіў прынцыповасць адносна свайго знешняга выгляду. Пасля ўсё-такі прыйшлося пагаліцца. Затое Андрэй Алегавіч ад пачатку адзіны ў «каранціне» насіў нармальны дзелавы касцюм, у адрозненне ад няўручных і прыніжлівых «палажняковых» робаў — без кішэняў і градацыі памераў.

З тых кароткіх сустрэч, якія давялося мець з Андрэем Алегавічам, магу ўпэўнена сказаць, што чалавек трымаецца годна, не губляе жадання надалей змагацца за свае перакананні. Абсалютна спакойны голас, інтэлігентныя манеры, усмешка.

Зэкі ставяцца да палітыка з павагай, клічуць «прэзідэнт» альбо проста «Алегавіч». Цікавяцца ў яго палітычным жыццём, звяртаюцца па парады. Сам бачыў, як падчас наведвання лаўкі асуджаныя займалі спецыяльна для «прэзідэнта» чаргу, дапамагалі, падказвалі што і як выбраць. У плане стасункаў праблем няма: «парадашныя людзі» лёгка знайшлі агульную мову з «непарадашным кандыдатам».

> **«Парадашныя людзі» лёгка знайшлі агульную мову з «непарадашным кандыдатам».** »

Праблем з адміністрацыяй у Саннікава я таксама не заўважыў — усё максімальна стрымана і карэктна. Безумоўна, сказаўся яго статус экс-кандыдата ў прэзідэнты, а таксама падрыхтаваная Мікітам Ліхавідам глеба: займець двух ці болей палітвязняў-«адмоўнікаў» у адной калоніі было больш чым рызыкоўным для начальства — абавязкова паляцелі б галовы.

Андрэй Алегавіч не згубіўся, не збаяўся, не ўпаў у дэпрэсію і самашкадаванне, а працягваў па магчымасці тую дзейнасць, да якой быў пакліканы на волі: размаўляў з людзьмі, даводзіў сваю пазіцыю да шырокай публікі праз лісты ў СМІ, быў прыкладам для людзей па абодва бакі калючага дроту.



Андрэй Саннікаў і за кратамі перавагу аддае дзелавому касцюму.

**Алесь Кіркевіч**

намеснік старшыні «Маладога фронта», гродзенец. Вучыўся на гістфаку Гродзенскага ўніверсітэта. Асуджаны да 4 гадоў зняволення за ўдзел у акцыі 19 снежня. Пакаранне адбываў у наваполацкай калоніі. Там жа, дзе і Андрэй Саннікаў і Мікіта Ліхавід. У калоніі Алесь рабіў будаўнічыя паддоны, а таксама пісаў вершы. Вызвалены ўказам Лукашэнкі ад 1 верасня.

## Саннікаў за кратамі ўздымае бел-чырвона-белы сцяг

Ірына Халіп мела доўгатэрміновае **спатканне з мужам**.

Стаўленне да Андрэя Саннікава з боку асуджаных добрае, кажа Ірына Халіп. «Яны паважаюць тых, хто пакутуе за ўсіх. Яны памятаюць, што Андрэй казаў у перадвыбарчай праграме пра вялікую колькасць незаконных прысудаў у краіне. З боку адміністрацыі стаўленне жорсткае, але без здзеку».

«У яго ёсць традыцыя — уздымаць сцяг. Я раней перадала яму белы пластмасавы кубак. Андрэй зрабіў пасярэдзіне кубка чырвоную стужку. Такі бел-чырвона-белы сцяг. І кожную раніцу ён выходзіць з кавай на ганак і ўздымае гэты сцяг. Персанальны кавалачак свабоды», — расказвае жонка палітвязня.

Ірына Халіп сказала, што мужу не прапаноўвалі напісаць прашэнне аб памілаванні. Але ён і не падпісаў бы яго. «Ён турэмны тэрмін не памяняе на легітымнасць Лукашэнкавай улады». Саннікаў вітае тых вязняў, хто напісаў прашэнне, і не асуджае іх.

**КМ**

# Дрозд на свабодзе піша кнігу, а Грыбкоў лечыць зубы

Прайшоў месяц, як Аляксандр Лукашэнка памілаваў першых палітвязняў. «НН» пацікавілася, як складваецца іх жыццё **пасля вызвалення**.

Гісторык **Зміцер Дрозд** адзначыў, што на свабодзе «мая праца — пісаць кнігі». У архіў ён пакуль не хадзіў, каб шукаць новыя звесткі. Але цяпер робіць праўкі да першага выдання сваіх «Землеўласнікаў Мінскай губерні. 1861—1900». Мяркуе перавыдаць.

**Сяргей Казакоў** таксама самавыражаецца ў творчасці: «Сышоў у музыку», — коратка сказаў ён. Сяргей грае на бас-гітары ў гурце «Скрыжалі». І цяпер рыхтуецца да запісу дзвюх песень. Шукае працу, бо не верыць, што возьмуць на старую.

**Аляксандр Квяткевіч** працуе на тым самым месцы, што і да арышту (вырабляе кампрэсары для машын). Начальства не мела нічога супраць, каб Аляксандр аднавіўся на былым месцы.

Не змог працаўладкавацца ў Беларусі **Яўген Сакрэт** — з'ехаў ва Украіну. Да зняволення Яўген займаўся ландшафтным дызайнам.

**Васіль Парфянкоў** яшчэ беспрацоўны. «Адпачываю пакуль», — сказаў ён. Да арышту Васіль вучыўся завочна ў БНТУ. Пасля падзей на Плошчы яго адлічылі з ВНУ. Парфянкоў мае намер вучыцца далей, хаця ведае, што ў БНТУ ужо вярнуцца не ўдасца.

**Уладзімір Яроменак** без праблем аднавіўся ва ўніверсітэце — на 3 курс БДУІР. Жадання з'язджаць на вучобу ў іншую краіну ў яго не было, таму з радасцю вярнуўся на студэнцкую лаву роднай ВНУ.

Без працы знаходзіцца і **Арцём Грыбкоў**. «Капаю бульбу і лячу зубы», — паведаміў ён. Цяпер Арцём знаходзіцца на малой радзіме ў Карэлічах. Але збіраецца вярнуцца ў Мінск, каб аднавіцца на ранейшым месцы працы.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Сяргей Казакоў сышоў у музыку, запісвае новыя песні.

**Сяргей Макарэвіч**

## Сцісла

### Мікола Статкевіч атрымаў вытворчую траўму

Цяпер ён знаходзіцца ў медсанчастцы шклоўскай калоніі.

У час працы на лесапільні пры падцягванні бярвення палітыку прыціснула руку. У шпіталі на яе наклалі гіпс.

Жонка Статкевіча Марына Адамовіч накіравала ў адміністрацыю калоніі зварот, у якім патрабуе, каб палітык зноў мог ёй тэлефанаваць. Ад 4 жніўня Марына Адамовіч не мела з ім ніякіх кантактаў. За гэты час адбылася толькі сустрэча палітыка з адвакатам.

### Радзіна атрымала палітпрытулак

Дэпартамент па міграцыі Літвы прыняў рашэнне аб прадстаўленні Наталлі Радзінай палітычнага прытулку. Да такога ж рашэння супрацоўнікі дэпартамента заклікалі і МЗС Літвы. Рэдактарка сайта charter97.org адзначыла, што мае намер вярнуцца ў Беларусь пасля змены палітычнай сітуацыі ў краіне.

### «Вясне» вярнулі камп'ютары

Праваабарончаму цэнтру «Вясна» вярнулі сканфіскаваныя пасля выбараў камп'ютары і носьбіты інфармацыі. Цяпер спецыялісты правяраюць іх стан. Аднак праваабаронцы вырашылі, што перададуць усю тэхніку аднаму з дзіцячых дамоў: карыстацца ёй зноў яны асцерагаюцца.

### Атрошчанкаў пайшоў вучыцца

Аляксандр Атрошчанкаў у калоніі пайшоў вучыцца па спецыяльнасці «дрэваапрацоўчыя станкі». Жонка палітвязня Дар'я Корсак паведаміла, што навучанне разлічана на год, уключна з летнімі і зімовымі вакацыямі. Аляксандр жартуе, што можа паспець атрымаць і не адну спецыяльнасць, пакуль выйдзе на свабоду.

### Павіншуй Новіка

16 верасня адзначае 30-годдзе Дзмітрый Новік. Павіншаваць вязня можна лістом альбо тэлеграмай: 213004 Магілёўская вобл., г. Шклоў, папраўчая калонія № 17, брыгада 141.

**КМ**

# Як дапытвалі па віцебскіх тэрактах 2005 года

**Сакрэтная тэлеграма**, якая з'явілася на сайце Wikileaks, расказвае пра допыт былога падазраванага ў віцебскіх выбухах.

5 верасня пачынаецца суд над абвінавачанымі ў мінскім тэракце Дзмітрыем Канавалавым і Уладзіславам Кавалёвым.

Першага вінаваціць у тым ліку і ў віцебскіх выбухах 2005. У перададзенай у суд крымінальнай справе абодва выбухі кваліфікаваныя як акты тэрарызму (арт. 289 КК).

А ў далёкім кастрычніку 2006 года прозвішча 20-гадовага Канавалава грамадскасці было зусім не вядомае. Тады па падазрэнні ў арганізацыі выбухаў арыштавалі 23-гадовага апазіцыянера Паўла Красоўскага.

Актывіст «Маладога Фронта» правёў у ізалятары 10 сутак. Па вызваленні ён меў сустрэчу з паслом ЗША Карэн Сцюарт.

Павел паведаміў, што, апрача выбухаў, яго дапытвалі па факце забойства і згвалтавання дзвюх жанчын у 1999 годзе. Дапытвалі маладога актывіста ў сярэднім па 7 гадзін штодня, і больш за ўсё ўвагі надавалі яго апазіцыйнай дзейнасці, працы з моладдзю і палітычным поглядам.

«Красоўскі адзначыў, што па факце выбуху задалі толькі адно пытанне, але настойвалі, што ён звязаны з гэтым інцыдэнтам і, магчыма, аддаваў загад».

Да размяшчэння Паўла Красоўскага на 10 дзён у ізалятар яму на адну ноч дазволілі выйсці на волю. «Красоўскі падазрае, што міліцыянты адпусцілі яго, бо хацелі, каб ён збег з краіны. Тады ягоныя ўцёкі яны маглі б скарыстаць як пацверджанне вінаватасці і, такім чынам, зрабіць яго «ахвярным казлом» за віцебскія выбухі».

Калі ж на наступны дзень Красоўскі ўсё ж прыйшоў у міліцыю на допыт і быў узяты пад варту, то ўлады вырашылі скарыстаць сітуацыю як «палітычны эксперымент», каб праверыць, наколькі зняволенне і публічны агавор спужаюць іншых апазіцыйных актывістаў па краіне, выкладае здагадкі хлопца сакрэтная тэлеграма, апублікаваная Wikileaks.

**Аксана Рудовіч**

**14 верасня 2005**

ў Віцебску адбыўся выбух ля прыпынку грамадскага транспарту «Плошча Свабоды», параніўшы двух чалавек. У выніку другога тэракта 22 верасня 2005 ля віцебскага рэстарана «Эрыдан» па вуліцы Леніна былі параненыя 55 чалавек.

# «А пасля будынак склаўся як картачны домік»

11 верасня споўнілася дзесяць гадоў з часу **тэрактаў у Нью-Ёрку**.

Гэта быў адзін з найбуйнейшых тэрактаў у гісторыі чалавецтва: два самалёты, захопленыя тэрарыстамі, урэзаліся ў будынкі Сусветнага гандлёвага цэнтра. Тады ў Нью-Ёрку загінула 2606 чалавек. «НН» паразмаўляла з былой жыхаркай Беларусі Маргарытай Міхно, якая працавала ў адной з вежаў Сусветнага гандлёвага цэнтра і паспела выратавацца з 56-га паверха.

**«Наша Ніва»: Раскажыце, дзе Вы знаходзіліся падчас тэракта? Чым запомніўся той дзень?**

**Маргарыта Міхно:** Той дзень пачаўся для мяне вельмі рана — а сёмай раніцы я ўжо была ў машыне. Часам летам, калі надвор'е было добрым, мы з мужам выходзілі з дому раней, і праз дваццаць хвілін ён высаджваў мяне ля Бэтэры-Танэл, што за 10 хвілін ад Сусветнага гандлёвага цэнтра, дзе я працавала ў Паўднёвай вежы. Плошча ля вежаў напоўнілася зранку людзьмі з газетамі і кавай — праца ў офісах пачыналася а дзявятай, але пасля восьмай знайсці месца ля фантана на плошчы было ўжо немагчыма. У той ранак я вырашыла не ісці на плошчу, хаця рабіла так заўжды, а пайсці да Гудзона — там спакойна, а ў мяне з сабой была цікавая кніга. На Гудзоне было сонечна і дзьмуў лёгкі ветрык, які, магчыма, і падняў мяне на 15 хвілін раней — я купіла банан і паднялася на 56-ы паверх. Гэта было ў 8.45 — за пятнаццаць хвілін ліфт было б ужо не ўбіцца, бо асноўная частка людзей прыходзіла да дзявятай. У офісе ў 8.45 была недзе чвэрць супрацоўнікаў. Я працавала тады ў кампаніі Морган Стэнлі — мы займалі дваццаць два паверхі, ад 56-га і вышэй.

**«НН»: Што Вы адчулі ў момант сутыкнення самалёта і будынка?**

**ММ:** І вось у 8.45 я ўключыла камп'ютар. І тут яно здарылася. Гук надзвычайнай магутнасці — я нават не паспела спалохацца, настолькі яно было нечакана. Першая думка — на верхніх паверхах нешта з электрычнасцю. Пабегла да акна, залезла на стол і ўбачыла, што дахі суседніх будынкаў пакрытыя аскепкамі, абломкамі і паперамі. Вельмі шмат паперы ў паветры — як быццам нехта высыпаў тону канфеці. Зразумела было адно: наверсе выбухнула нешта вельмі вялікае і трэба хутка ўцякаць.

**«НН»: Як удалося ўратавацца?**

**ММ:** Я і мой сусед Нэльсан ускочылі ў ліфт, які ішоў на 43-і паверх (гэта так званы «лакальны ліфт»). Там мы і даведаліся, што на 73 паверсе выбух (глупства, аднак нехта ўжо паспеў пусціць чуткі). На 43-м паверсе знаходзіліся экспрэсы — «ліфты-накапляльнікі», у якіх маглі ехаць да ста чалавек. Адразу пасля выбуху іх адключылі, і нам сказалі спускацца па лесвіцы — у мэтах бяспекі. Плынь людзей была вялізнай — на верхніх паверхах людзі не рызыкнулі сесці ў лакальныя ліфты. Лесвіцы вузкія — на два чалавекі, не болей. Ішлі павольна, моўчкі — пакуль праз гучную сувязь не аб'явілі, што «здарэнне» адбылося ў суседнім будынку і трэба вяртацца. Мы спыніліся, і пачалася такая нервовая атмасфера — пару хвілін мы не рухаліся. Адзінае жаданне ў мяне было — як мага хутчэй трапіць на вуліцу. Ніхто, прынамсі каля мяне, на рэкамендацыі не зрэагаваў, і мы пачалі спускацца далей. Мы былі амаль унізе, калі раздаўся грукат, разоў у пяць мацнейшы за папярэдні. Цяпер мы не сумняваліся — у будынку закладзеныя бомбы. Наступная можа выбухнуць у любы момант, дзе заўгодна. Пачалася паніка. Усе выхады на вуліцу, акрамя самага дальняга (які вёў у метро), былі зачыненыя. І машыніст падземкі крычаў: «Гэта апошні цягнік — болей не будзе». Менавіта ў цягніку мы пачулі іншую версію: у будынак урэзаўся самалёт «Амерыкан Эйрлайнз».

**«НН»: Ці бачылі Вы, як абрынуліся будынкі?**

**ММ:** У 9.15, на наступным прыпынку цягніка, я выйшла паглядзець, што адбылося. У двух агромністых будынках былі дзве гіганцкія дзіркі. Паліцыя перакрыла раён і не дазваляла набліжацца да будынкаў. Мы стаялі і глядзелі, як другая вежа складвалася як картачны домік, хмара з пылу атачыла яго і стала рухацца ў наш бок. Мы з крыкамі кінуліся ўцякаць і спыніліся толькі праз хвілін пятнаццаць, калі ўпэўніліся, што небяспека мінула. А яшчэ за пятнаццаць хвілін першая вежа гэтаксама склалася ў нас на вачах.

**«НН»: Ад чаго залежыла магчымасць уратавацца?**

**ММ:** Гэта залежыла ад паверха, на якім ты знаходзіўся. У першай вежы сутыкненне адбылося ў раёне дзевяностых паверхаў. Усе, хто знаходзіўся ніжэй, калі выхады на лесвіцу не былі заваленыя (а такое цалкам магло быць верагодным), мелі час, каб спусціцца.



**Маргарыта Міхно**

нарадзілася 27 лютага 1960 у Мінску. Скончыла школу №103, механіка-тэхналагічны факультэт БПІ (1984). Працавала інжынерам-тэхнолагам на гадзіннікавым заводзе «Луч». У 1989 эмігравала ў ЗША, дзе працуе камп'ютарным аналітыкам у фірме Morgan Stanley. Да 11 верасня 2001 фірма месцілася ў адной з вежаў сусветнага гандлёвага цэнтра.

Паўночная вежа абрынулася ў 10.00. У нашай вежы сітуацыя была больш складанай — сутыкненне было нашмат ніжэйшым, і некаторыя людзі, якія ішлі з верхніх паверхаў, апынуліся на лесвіцы ў пункце ўдару якраз у момант сутыкнення.

**«НН»: Ці адразу Вы зразумелі, што гэта — тэракт?**

**ММ:** Пасля першага ўдару ніхто бадай што не думаў пра тэрарызм. Зрэагаваць дапамаглі пастаянныя інструкцыі, што рабіць у выпадку экстраннага здарэння. Асноўны ўпор рабіўся на тое, каб адразу пакінуць будынак па лесвіцы, пазбягаючы ліфтаў, якія ў выпадку пашкоджанняў могуць апынуцца пасткай. Гэта дапамагло нам выратавацца — нават тым, хто быў на верхніх паверхах. Пасля другога выбуху, аднак, ніхто ўжо не сумняваўся, што гэта быў акт тэрарызму.

**Гутарыў Юрась Ускоў**



# Апошні палёт «Лакаматыва»

**Страшная трагедыя** адбылася 7 верасня.

Пры ўзлёце пацярпеў крушэнне самалёт Як-42. На яго борце знаходзілася хакейная каманда «Лакаматыў».

Яны ляцелі ў Мінск на першы матч сезона Кантынентальнай хакейнай лігі, каб пазмагацца з «Дынама». «Пасля адрыву ад узлётна-пасадачнай паласы самалёт сутыкнуўся з антэнай маяка, якая размяшчалася за паласой, сутыкнуўся з зямлёй і загарэўся», — паведамілі ў Расавіяцыі.

На борце самалёта было 45 чалавек. У жывых засталіся толькі двое: хакеіст Аляксандр Галімаў і бортправаднік Аляксандр Сізаў. У Галімава апёкі 90% цела. Нейкі час ён быў у свядомасці, нават змог пагаварыць з бацькам і жонкай. Праўда, перамагчы ў барацьбе за жыццё не атрымалася. У панядзелак хакеіст памёр.

За яраслаўскі «Лакаматыў» выступалі беларусы Руслан Салей і Сяргей Астапчук. У першыя гадзіны пасля катастрофы былі спадзяванні, што Салей мог прыляцець на матч загадзя, каб убачыцца з роднымі.

На справе, і Руслан, і Сяргей былі на тым няшчасным самалёце. Потым высветлілася, што на борце быў і трэці беларус — трэнер па фізічнай падрыхтоўцы Мікалай Крываносаў.

Намеснік міністра транспарта Расіі Валерый Акулаў кажа, што яшчэ не высветленая прычына падзення самалёта. Тут можа быць як чалавечая памылка, так і тэхналагічны збой. Ён запэўніў, што ўзлётнай паласы цалкам хапае.

Трагедыя адбілася ў людскіх сэрцах. Ужо ў першыя гадзіны пасля здарэння беларускія заўзятары пацягнуліся да «Мінск-Арэны», каб ускласці там кветкі ў памяць аб гульцах «Лакаматыва». Нешта падобнае адбывалася і ў Рызе. Там прайшоў «марш балельшчыкаў» у памяць аб латышскім капітане Карлісу Скрастыньшу. Падобнае адбывалася ў Расіі і іншых кутках свету.

Прынятае рашэнне, што «Лакаматыў» не будзе прымаць удзел у гэтым розыгрышу КХЛ.

**ЗП**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**«Мінск-Арэна» патанала ў кветках. Трагедыя «Лакаматыва» не пакінула абыякавых.**

**Як-42** — сярэднемагістральны вузкафюзеляжны пасажырскі самалёт, выпускаўся у 1977—2003. Першы эксперыментальны палёт быў здзейснены ў 1975. Вытворца — Вопытна-канструктарскае бюро імя Якаўлева. Максімальная колькасць пасажыраў — 120 чалавек.

# Руслан, Сяргей, Мікалай

**Тры беларусы** знаходзіліся ў самалёце Як-42.

Руслан Салей нарадзіўся 2 лістапада 1974 у Мінску. Выхаванец хакейнай школы «Юнацтва».

У 1996 быў задрафтаваны клубам НХЛ «Анахайм Майці Дакс» пад дзявятым нумарам. Вышэй у драфце ніхто з беларусаў пакуль не падымаўся. Дзесяць сезонаў ён адгуляў у НХЛ за «магутных качароў».

У 2003 Руслан Салей браў удзел у фінале Кубка Стэнлі. У адной з гульняў ягоны бліскучы кідок у овертайме прынёс «Анахайму» перамогу. Гэта быў зорны час Салея. Праўда, у серыі яны саступілі.

Потым у кар'еры Расці — так яго называлі за мяжой — былі «Флорыда», «Каларада» і «Дэтройт». Ва ўсіх гэтых камандах беларускі абаронца быў «жалезным» гульцом асновы.

Ніхто з беларусаў не праводзіў больш матчаў у НХЛ за Салея. Напярэдадні новага сезона хакеіст пераехаў у яраслаўскі «Лакаматыў», дзе яму прапаноўвалі добрыя грошы.

Руслан быў капітанам і лідарам нацыянальнай хакейнай зборнай Беларусі. Цяпер гучаць прапановы надаць імя Салея адной з хакейных арэн Мінска.

Руслан жанаты з амерыканкай Бэтан. Нядаўна ў іх нарадзілася трэцяе дзіця. У адным з інтэрв'ю хакеіст прызнаваўся, што марыць купіць свой уласны самалёт.

Сяргей Астапчук нарадзіўся 19 сакавіка 1990 у Наваполацку. У маладым веку пераехаў з Беларусі ў Маскву, дзе спрабаваў прабіцца ў склад «Спартака». Не атрымалася, у 17-гадовым веку ён пераехаў у Яраслаўль.

У суседняй краіне ён прыняў расійскае грамадзянства, каб не трапляць пад легіянерскую квоту. Праўда, апошнім часам вельмі спадзяваўся, што федэрацыя хакея зможа дамовіцца з «Лакаматывам», каб яму дазволілі гуляць за беларускую зборную.

У мінулым сезоне Астапчук змог замацавацца ў асноўным складзе яраслаўскага клуба. Сёлета яго найгравалі на першую пяцёрку.

У Астапчука засталася дзяўчына Эля, з якой ён хацеў пабрацца шлюбам.

Мікалаю Крываносаву быў 31 год. Здавалася б, залаты час для хакеіста, але кар'еру давялося завяршыць рана праз траўмы. Вырашыў пайсці ў трэнеры.

Мікалай — гэта сын аднаго з найлепшых беларускіх хакеістаў Івана Крываносава. Мікалай, апроч хакея, займаўся фітнэсам. Нават займаў прызавыя месцы на чэмпіянатах Расіі.

Руслана Салея пахавалі 10 верасня на ганаровай алеі Усходніх могілкак сталіцы. На наступны дзень развіталіся з Мікалаем Крываносавым і Сяргеем Астапчуком. Іх пахавалі на Кальварыйскіх могілках

**Зміцер Панкавец**

**ХК «Дынама» летась таксама лётаў на Як-42**

Пасля трагедыі ў Яраслаўлі клуб адмовіўся ад палётаў на гэтым самалёце. «Дынама» лётае Боінгам, але рэйс у Чарапавец даводзілася выконваць на Як-42.


**Ад Руслана Салея зыходзілі упэўненасць і спакой. Менавіта таму яго і абралі капітанам зборнай. За такім, як за каменнай сцяной.**


**Сяргей Астапчук быў таленавітым хакеістам і рамантычным юнаком. На здымку ён з дзяўчынай Эляй.**

GOALS.BY

**Найбуйнейшыя катастрофы Як-42**

Першая з іх здарылася над Беларуссю ў 1982 годзе.

**28 чэрвеня 1982 года** — самалёт упаў у ваколіцах Мазыра (Гомельшчына) з вышыні 10 км. Загінулі ўсе 132 чалавекі, якія знаходзіліся на борце. Эксплуатацыя Як-42 была прыпыненая на 2 гады да ўнясення змяненняў у канструкцыю.

**31 ліпеня 1992 г.** — Як-42 разбіўся пры вылёце з горада Нанкін на поўдні Кітая з-за адмовы тэхнікі. Загінулі 108 чалавек, пацярпелі 18.

**21 лістапада 1993 г.** — самалёт, які выконваў рэйс Жэнева—Скоп'е, урэзаўся ў гару ў раёне македонскага горада Охрыд. Загінулі 115 чалавек, адзін выжыў.

**17 снежня 1997 г.** — у выніку памылкі пры заходзе на другое кола самалёт урэзаўся ў гару непадалёк ад грэцкіх Салонік і ўпаў. Загінулі ўсе 70 чалавек, якія знаходзіліся на борце.

**26 мая 2003 г.** — самалёт з іспанскімі вайскоўцамі на борце, якія вярталіся з Афганістана, каля турэцкага горада Трабзон урэзаўся ў гару пры заходзе на пасадку ў тумане. Загінулі ўсе 75 чалавек, што былі на борце.

Паводле апошніх падлікаў, за ўсю гісторыю эксплуатацыі ў авіякатастрофах разбілася 9 самалётаў Як-42. Пры гэтым загінулі 569 чалавек.

**Падрыхтаваў СП**

# За Яраслаўль гуляла зборная свету

За «Лакаматыў» гуляў цэлы шэраг прызнаных майстроў хакея.

Карліс Скрыстыньш быў капітанам зборнай Латвіі. Як наш Руслан, ён шмат сезонаў адгуляў у НХЛ. Зорны час прыпаў на сезоны ў «Нэшвіле» і «Каларада». Гэты сезон у «Лакаматыве» павінен быў стаць першым па вяртанні з-за акіяна.

Чэхі Вашычэк, Марэк і Рахунэк. Усе яны былі асноўнымі гульцамі зборнай і кожны выйграваў першынствы свету. Любая каманда КХЛ магла б ганарыцца такімі выканаўцамі.

Прызнаны славацкі бамбардзір Павел Дземітра. Ён прымаў удзел у матчах усіх зорак НХЛ. Лядовы палац у Трэнчыне перайменаваны ў гонар Дземітры. Там ён пачынаў рабіць свае першыя крокі ў хакеі.

Стэфан Ліў быў асноўным брамнікам швецкай зборнай. Чэмпіён свету 2006. Адзін з самых надзейных галкіпераў КХЛ.

Роберт Дзітрых стабільна гуляў у складзе нацыянальнай каманды Нямеччыны на чэмпіёнатах свету.

Украінскі варатар-ветэран Аляксандр Уюхін.

А яшчэ цэлы шэраг маладых перспектыўных расіян. Хакейная школа ў Яраслаўлі адной з наймацнейшых у Расіі.

**ЗП**



**Скрастыньшу, як і Салею, было 37 гадоў, яны былі капітанамі зборных, а гэтым летам перабраліся з НХЛ у «Лакаматыў».**

# 23-гадовага участковага знайшлі з прастрэленай галавой

Разглядаюцца розныя версіі: **ад самагубства да забойства.**

23-гадовы Аляксандр быў знойдзены 29 жніўня на дарозе каля вёскі Уласы ва ўласным аўто. У яго была прастрэлена галава з табельнай зброі, якая ляжала на каленях. Пракуратурай Брэсцкай вобласці правяраецца версія аб самагубстве, а таксама аб магчымай датычнасці да здарэння іншых асобаў.

Як піша баранавіцкая Intex-press, малады чалавек адпрацаваў у раённым аддзеле ўнутраных спраў каля года. Перадсмяротнай запіскі пры загінулым не знайшлі. Родныя міліцыянта не вераць, што ён мог добраахвотна сысці з жыцця.

«Калі ўсё гэта адбылося, мы не ведалі, што і падумаць. З дзяўчынай у яго было ўсё выдатна, вяселле ў красавіку планавалі згуляць. У нас у сям'і былі добрыя адносіны, з малодшым братам яны дык наогул найлепшымі сябрамі былі. Ды і на працу ён ніколі асабліва не скардзіўся. З якога боку ні паглядзі — жыць толькі да радавацца. Ну не мог Саша сам з сабой такое зрабіць», — сказаў бацька загінулага Мікалай.

Мужчына таксама адзначыў, што падчас апошняй размовы з сынам у той трагічны дзень адчуў нешта дзіўнае ў яго голасе. «Я яму патэлефанаваў, стаў пытаць, як справы, пра футбольны матч — ён вельмі футбол любіў. Ён адказваў быццам праз сілу, на навіну пра лік у матчы наогул ніяк не адрэагаваў, што для яго незвычайна было. Сказаў, што едзе ў Крошын».

Праз дзве гадзіны пасля той размовы да бацькоў участковага прыехаў супрацоўнік міліцыі, які шукаў іх сына. Сказаў, што не можа да яго датэлефанавацца. Бацька паехаў шукаць Аляксандра. «Пад'ехаўшы да Уласаў, убачыў Сашаву машыну. Шкло было разбіта. Падышоў і ўбачыў сына. На каленях у яго ляжаў пісталет...»

Аляксандр з дзяцінства хацеў быць міліцыянтам. Але паступаў на гістарычны факультэт. Пасля няўдалай спробы стаць гісторыкам паступіў на юрфак. На апошнім курсе пайшоў працаваць юрыстам.

На старонцы Аляксандра vkontakte.ru да сёння працягваюць паступаць спачуванні. Сябры і знаёмыя адзначаюць, што ён быў добрым. Адзін з яго сяброў Ілья паведаміў журналісту «НН», што «Саша быў харошым чалавекам, заўжды адгукаўся на просьбу аб дапамозе. Ну і добра выконваў сваю працу. Пасля таго, што адбылося, ніяк не прыходзіць у галаву, што ён сам з сабой так зрабіў. А яшчэ ў яго вяселле планавалася... Людзі шмат пра яго станоўчага кажуць. Былі ў кожнага свае думкі аб ім, былі і розныя версіі аб трагедыі. Па адной з іх, нібыта яго забілі ў машыне, калі ён з кімсьці размаўляў. І забойца адаслаў з яго тэлефона смс-паведамленне начальніку. Маўляў, знойдзеце мяне, то бок Сашу, каля Уласаў у машыне».



Іншыя знаёмыя Аляксандра схільныя да любой версіі, але не да самагубства. Праўда, ніхто не можа нават уявіць, каму на дарозе малады чалавек мог стаць перашкодай.

За два дні да смерці Аляксандр быў на дні нараджэння ў адной з сяброўак. Тая сказала, што малады чалавек быў вясёлым, ні пры якія праблемы не было і гаворкі. «Я запомніла яго вясёлым. Мы шмат размаўлялі і смяяліся ў той вечар... І з дзяўчынай у яго ўсё было цудоўна».

**Кастусь Матушыч**

**Гэта не першая** падобная справа ў Брэсцкай вобласці. Сёлета, 7 сакавіка, з табельнай зброі застрэліўся 23-гадовы следчы Бярозаўскага РАУСа.

# «Дудуткі» згарэлі



**Музей «Дудуткі» (Пухавіцкі раён)** заснаваў у 1994 г. пісьменнік Яўген Будзінас. З часам ён вырас у вялікі комплекс з уласнай пякарняй, млыном, кузняй і невялікім заапаркам. У «Дудутках» праходзяць фестывалі і канцэрты, а таксама гэта папулярнае месца ля правядзення сямейных і карпаратыўных мерапрыемстваў.

Агонь **знішчыў частку экспанатаў** папулярнага музейнага комплексу.

10 верасня ў «Дудутках» гралі вяселле. А палове на дзясятую вечара святкаванне давялося спыніць — у суседніх памяшканнях успыхнуў моцны пажар. Як паведамілі «НН» у Міністэрстве па надзвычайных сітуацыях, пажар здарыўся ў двухпавярховым будынку музея — гарэлі драўляныя бэлькі і страха. З агнём змагалася 15 адзінак пажарна-выратавальнай тэхнікі. Цалкам патушыць пажар удалося толькі на пачатку ночы.

Пазней высветлілася, што агонь пашкодзіў каля 600 квадратных метраў плошчы папулярнага музейнага комплексу. У пажары згарэлі кнігі, фотаздымкі, архіўныя дакументы сям'і Ельскіх, што валодала зямлёй, на якой месціцца музейны комплекс, а таксама асабістыя рэчы заснавальніка музея Яўгена Будзінаса і многае іншае.

У тым ліку рарытэтнае аўто Horch-850 — палявы варыянт легкавіка часоў Другой сусветнай вайны. Такіх не тое што ў Беларусі, у свеце няшмат засталося, з горыччу расказа потым журналістам Валерыя Кліцунова, удава Будзінаса, старшыня праўлення грамадскага аб'яднання «Адпачынак у вёсцы». Іншыя аўто з калекцыі супрацоўнікі «Дудутак» паспелі адвесці ад агню.

Шкода, нанесеная пажарам, ацэньваецца ў 200 мільёнаў рублёў (без уліку цаны экспанатаў музея). Прыблізна ў такую ж суму ацэньваюцца выратаваныя ад агню экспанаты. На дадзены момант следства разглядае некалькі версій прычынаў здарэння: падпал, неасцярожнае абыходжанне з агнём і кароткае замыканне.

Нягледзячы на страты, супрацоўнікі «Дудутак» не губляюць аптымізму. Ужо на наступны дзень пасля здарэння на сайце музея з'явілася паведамленне, што комплекс застаецца адчыненым для наведнікаў, а ўжо праз тыдзень пасля пажару, 17 верасня, тут запланаваны вялікі канцэрт. Грошы, атрыманыя за квіткі, пойдуць на аднаўленне музея.

**Сямён Печанко**

## Сцісла

### Трагедыя пад Даўгінавым

Вечарам 10 верасня каля вёскі Даўгінава Вілейскага раёна загінулі пасажыры аўтамабіля «Мазда-626»: 2-гадовы хлопчык, 8-гадовая дзяўчынка і 81-гадовы пенсіянер.

Кіроўца «Мазды» (1983 г.н.) не даў рады кіраванню і каля вёскі Апенькі ўрэзаўся ў дрэва. Кіроўца і яшчэ два яго пасажыры з траўмамі дастаўленыя ў бальніцу. Заведзена крымінальная справа.

### Сем чалавек пацярпелі ў лабавым сутыкненні пад Браславам

Уначы 11 верасня ў раёне вёскі Рубеж сутыкнуліся Ford Mondeo і Volvo 440. Шасцёра чалавек выбраліся з аўтамабіляў самастойна. Адзін з пасажыраў Volvo апынуўся заблакаваным. Яго вызвалілі работнікі МНС. Лекары дыягнаставалі ў яго шматлікія пераломы і траўмы. Усе пацярпелыя дастаўленыя ў бальніцу.

### Пад Слуцкам ізноў перакулілася маршрутка

8 верасня на ўскрайку Слуцка перавярнулася маршрутка, якая ехала з Мінска ў Салігорск. У ёй знаходзілася 12 пасажыраў. У выніку аварыі 7 чалавек былі параненыя, трое знаходзяцца ў цяжкім стане. Паводле інфармацыі ДАІ, кіроўца не ўлічыў умовы надвор'я, акрамя таго, мікрааўтобус на закругленні дарогі трапіў на пляму саляркі, у выніку чаго яго занесла і аўто перакулілася.

14 жніўня 2011 г. пад Слуцкам у ДТЗ таксама трапіла маршрутка. Тады адзін чалавек загінуў, дзевяць было паранена.

**СП**



«ІНФА-КУР'ЕР»

# Спецназаўцыператрэслі вагон пасля таго, як у іх папрасілі білеты?

**Міліцыя абвяргае** фактператрусу ў цягніку Брэст—Мінск.

Пра інцыдэнт у пасажырскім цягніку, які накіроўваўся з Брэста ў Мінск, піша газета «Вечерний Брест». У газету звярнулася чытачка, якая расказала пра дзіўны выпадак ноччу 4 верасня ў цягніку №608. З купэ праваднікоў чуўся шум, лаянка, а таксама выкрыкі, як у часе міліцэйскіх аблаваў.

У транспартнай міліцыі заявілі, што ў тую ноч на цягніку гэтага маршрута супрацоўнікі міліцыі не праводзілі аніякіх мерапрыемстваў у дачыненні ні да пасажыраў, ні да праваднікоў.

Згодна неафіцыйнай інфармацыі, інцыдэнт здарыўся пасля таго, як на цягнік селі два чалавекі ў камуфляжы з сімволікай спецназа. Яны былі без праязных дакументаў. Нібыта пры гэтым яны адмовіліся прадставіцца і паказваць дакументы.

У транспартнай міліцыі патлумачылі, што супрацоўнік праваахоўных органаў, які кіруецца цягніком на заданне, не набывае квіток, а атрымлівае маршрутны ліст супрацоўніка суправаджэння. А ўжо па ім ён атрымлівае ў касе пасадачны талон. Такіх дакументаў у спецназаўцаў не было.

У Ганцавічах у вагон селі яшчэ два спецназаўцы. Яны мелі пры сабе маршрутны ліст, але без неабходных рэквізітаў. У адказ на незадаволенасць праваднікоў спецназаўцы нібыта вырашылі правесці сваю праверку. Пры гэтым не складаліся пратаколы, не прад'яўляліся неабходныя дакументы.

Выказваецца здагадка, што ў інцыдэнце ўдзельнічалі спецназаўцы, якія дзяжурылі ў Ганцавічах на Дні беларускага пісьменства. Абураныя праваднікі не збіраюцца пакідаць гэту справу без адказу.

Пасля публікацыі гэтага артыкула на сайце nn.by чытач даслаў каментар, у якім піша, што быў сведкам таго інцыдэнту. «Сапраўды былі 4 супрацоўнікі спецназа, якія сварыліся з праваднікамі і імітавалі бурную дзейнасць: хадзілі па вагоне, свяцілі спячым людзям у твар ліхтарыкам і рабілі выгляд, што кагосьці старанна шукаюць».

**СП**

# Лошыца: **парк для аўтамабілістаў**

На Дзень горада з помпай быў адчынены для наведнікаў Лошыцкі парк — рэдкая па насычанасці аб'ектамі гістарычная, **культурная і прыродная каштоўнасць** Мінска.

> «Рэстаўрацыя ператварылася ў асваенне грошай.



Лошыцкая сядзіба ў атачэнні будаўнічых вагончыкаў.

Не толькі сядзібны дом, які памятае Станіслава Аўгуста Панятоўскага, Паўла I, Дуніна-Марцінкевіча, але і прырода вакол яго — сад акадэміка Вавілава, ландшафты, рамантычныя сцежкі вымагалі асаблівага стаўлення рэстаўратараў.

Ад вуліцы Маякоўскага Лошыца адмежаваная даражэзным новым парканам з цэглы і металічных прутоў. Дзе-нідзе, праўда, ён пачаў ужо раз'язджацца. Пляц перад галоўным уваходам выкладзены стандартнай пліткай. Тая ж плітка выслала і цэнтральную алею парку. Раней тут была рамантычная брукоўка XIX стагоддзя, дзе-нідзе ўзнятая каранямі стагадовых дрэваў алеі. Яна мела адзін мінус — дрыготка па ёй ездзіць аўто.

Уражанне, што ўсю Лошыцу прыстасавалі для аўтамабілістаў і вясельных картэжаў — столькі з'явілася асфальтавых праездаў. Каб забяспечыць нармальны разварот аўто, знеслі браму з каванымі дзвярыма ля капліцы XVIII стагоддзя. Месца заасфальтавалі.

Ёсць і іншая вясельная атрыбутыка — Заручальны дуб, замочкі на мосце... Лошыца, з яе легендай пра здраду і самагубства, — сумнеўнае месца для старту сямейнага жыцця.

Капліца, найстарэйшы помнік архітэктуры Лошыцы, дагэтуль у руінах. Разбурылі яе пасля вайны, існуюць фота, аднавіць было б нескладана. Але 23 гадоў на гэта было мала.

Непадалёк — уязная брама ў маёнтак. Гэтай дарогаю ўляталі сюды і коні апошняга караля Рэчы Паспалітай, і экіпаж расійскага імператара, заязджалі злавесныя «варанкі» АГПУ (у 1930-я тут месцілася школа дыверсантаў) і аўто гаўляйтара Беларусі Вільгельма Кубэ — Лошыца была яго рэзідэнцыяй. Пілоны складзеныя з новай цэглы — гэта заўважна па неакуратнасці кладкі. Стары падмурак не вытрымаў іх вагі, слупы пахіліліся.



Каля брамы — хатка вартаўніка, пакрытая новай бляхай. Праўда, будаўнікі забыліся пра канёк, бляху можа здзерці першая ж віхура, а восень нагоніць пад страху вады.

Палац цяпер аточаны будаўнічымі вагончыкамі. Да аднаго з іх, заўважылі мы, бег чалавек з бутэлькай. Яго там чакалі іншыя. Было 16.00 — працоўны час.

У 1988 годзе сядзібны дом быў у жылым стане. Інтэр'еры мінулых стагоддзяў, каміны ўнікальнай канструкцыі... Замест паднаўлення дом амаль цалкам знеслі і ставяць на яго месцы навабуд. Каміны абрынуліся. Аголеныя падмуркі і скляпенні невядома, ці вытрымаюць наступную зіму — магчыма, і іх давядзецца замяняць бетоннай плітой. Рэстаўрацыя ператварылася ў асваенне грошай.

Шкада і старых бэзавых лабірынтаў — перад фасадам сядзібы высеклі кусты белага і сіняга бэзу. Так густоўна пасаджанага, што ў свой час маладыя мастакі хадзілі сюды «на эцюды».

На радасць аматараў прыродных рэдкасцяў захавалася цюльпаннае дрэва — яно расце проста пад акном маладой пані, якая, згодна з легендай, зрабіла сабе смерць... Цюльпаннае дрэва раней квітнела раз на трыпяць гадоў, а цяпер — штогод.

Побач з сядзібай — драўляны флігель. Дзіўна, што яго рэстаўрацыю ставяць сабе ў заслугу сённяшнія аднаўляльнікі — ён быў парамантаваны яшчэ ў 1990-я. Тады ж займеў і драўляную канструктывісцкую вежу.



Найстарэйшы будынак Лошыцы — капліца XVIII ст.



Плітка замест бруку.



Вясельныя атрыбуты паўсюль.

Апроч «добрых дарог», у Лошыцкім парку, ля става, з'явілася маса пластыкавых альтанак. Людзі з навакольных раёнаў, купіўшы гарэлкі, прыходзяць сюды.

Перайшоўшы масток, можна пабачыць руіны старога млына і бровара. Некалькі гадоў таму яны таямніча згарэлі і не аднаўляліся. З фасада бровара знікла ўнікальная чыгунная пліта з лічбамі «1896».

Яшчэ адна руіна стаіць воддаль, у нізіне, — электрычны млын XIX стагоддзя. Там непадалёк і Чорны Яр, дзе ў 1930-я, калі Лошыца належала АГПУ, расстрэльвалі людзей. Памятны крыж, усталяваны на іх магілах, невядомыя вандалы выдралі.

Затое ў Лошыцы, як рапартавалі дзяржаўныя СМІ, з'явіліся дзіцячы гарадок, велатраса, тэнісныя корты, амфітэатр. І — самае галоўнае — на стагадовых дрэвах цэнтральнай алеі павесілі шпакоўні з надпісам Coca-Cola. Няма ў аўтараў новай Лошыцы ні пачуцця гісторыі, ні густу.

**Сяргей Харэўскі, СМ. Фота Сяргея Гудзіліна.**

## Сціcла

### На Венецыянскім кінафэсце перамог апанент Міхалкова

«Залатым ільвом» уганараваны расійскі рэжысёр Аляксандр Сакураў за фільм «Фаўст». Сакураў быў апанентам кінарэжысёра Мікіты Міхалкова як кіраўніка Саюза кінематаграфістаў Расіі.

### «Севільскі цырульнік» як фарс

У Оперы адбыўся прэм'ерны паказ новай пастаноўкі «Севільскага цырульніка». Тэатр прапануе гледачу твор Расіні ў блізкім да фарса варыянце. Дзея адбываецца на рымскай плошчы, дзе артысты разыгрываюць камедыю для мінакоў.

### Скрыпка заспявала па-беларуску

Украінскі гурт «Воплі Відаплясава» запісаў для праекта «Будзьма! Тузін. Перазагрузка-2» беларускую версію аднаго са сваіх галоўных хітоў. «Краіну мрой» на беларускую мову пераасэнсаваў Андрэй Хадановіч.

**КМ, АС, СБ**

# «Каб ні «Ляпісаў», ні N.R.M.»

10 верасня ў сталіцы ўпершыню адбыўся Дзень вулічнай музыкі. Свята прыйшло да нас з Вільні — там на вуліцы выходзіць па 700 музыкаў. Арганізатары мінскага свята дазволілі выступіць толькі 52 выканаўцам. Конкурсны адбор не прайшлі Вайцюшкевіч і Кулінковіч.

Заяўку на ўдзел наш гурт вырашыў падаваць — спадабалася ідэя прадстаўляць арганізатарам «кароткі змест песень». Блюзавая класіка, якую мы выконваем, была вытлумачаная ў стылі сацрэалізму. Ад кароткіх зместаў шыбала забойчым аптымізмам.

І ўсё ж такі нас паклікалі. Размова з арганізатаркай выглядала так:

— А ці можна спяваць не тыя песні, што ў заяўцы?

— Так. Толькі ніякай палітыкі.

— А «палітыка» — гэта як?

— Каб ні «Ляпісаў», ні N.R.M. — мы культурай займаемся.

Праўда, арганізатары не ведалі назваў «палітычных» песень гэтых гуртоў.

На КПП да кожнага чалавека з гітарай падыходзіў змрочны прадстаўнік БРСМ і звяраў са спісам. Многіх, хто не фігураваў у спісе, але меў інструменты, міліцыя не пусціла ў Траецкае — а раптам запяюць Belarus Freedom?

Сем сцэнаў паставілі правільна — яны амаль не перашкаджалі адна адной. Наша, аддадзеная пад джаз і блюз, праславілася тым, што там можна было пачуць усё: італьянскую поп-музыку 1980-х, шансон, а потым выйшлі панкі і запяялі: «Родітелі назвалі Романом, а друзья назвалі наркоманом». Аднак траплялiся і блюзмэны.

Слухачоў сабралася няшмат — магчыма, хмары на гарызонце ды пахаванне Салея не выклікалі жадання весяліцца.

Найбольшай папулярнасцю карысталася этнічная сцэна, асабліва калі выконваліся песні па-беларуску.

Захапленне выклікала і дзяўчына з сітарам, на якім адыграла нават Smoke on The Water.

Увечары адбылося фаершоу, якое дадало святочнай атмасферы. Будзем спадзявацца, налета па фармаце мы наблізімся да Літвы, дзе не ставяць музыкам абмежаванняў. Выходзь і спявай.

**Юрась Ускоў**

# Час паліць архівы

Або Зварот да палкоўніка Уладзіміра Макея і генерала Леаніда Мальцава.
Піша **Уладзімір Іскрык**.

Хлопцы, я вымушаны звярнуцца да вас публічна, бо вас адсеклі ад усялякае інфармацыі і завальваюць прапагандысцкім смеццем, каб не засталося часу ўсведаміць жудасць таго, дзе вы знаходзіцеся і што вас чакае. Я напісаў бы нават, каб гэта датычыла толькі кагосьці з вас асабіста, але кожная ваша памылка чыніць боль і мне, і сотням тысяч бедакоў з беларускім пашпартам.



Леанід Мальцаў прымае парад у гонар дня рэспублікі. Былы міністр абароны займае адну з ключавых пасад — дзяржсакратара Рады бяспекі.

PHOTO.BYMEDIA.NET

### «Пераможцы сябе так не паводзяць»

Сярод безлічы двоечнікаў і троечнікаў, што перапаўняюць уладныя структуры, вы, ды хіба яшчэ чалавекі два, маеце вышэйшую кваліфікацыю, стратэгічнае мысленне і талент. Спадзяюся, вы прызналі выснову нашых блізкіх знаёмых, былых начальнікаў і падначаленых, калег па «вайсковай адзінцы 44388», проста нашых з вамі землякоў: «Не тую дзяржаву пабудавалі!»

Публікацыі і ацэнкі паўтузіна палкоўнікаў выведкі і контрвыведкі, у тым ліку начальніка аналітычнай службы ГРУ СССР, не могуць быць легкаважаныя. Але ж яны гавораць наступнае:

1. Перманентны ваенны стан ператвараецца ў крымінальную дзяржаўнасць.
2. Умацаванне рэпрэсійнай вертыкалі азначае непазбежную стагнацыю грамадства, а ўлада ўспрымаецца службоўцамі як права на самадурства і зладзейства.
3. Прапаганда становіцца «пераконваннем сваіх», народ жыве ва ўласным маральна-інфармацыйным полі.
4. Улада абапіраецца на паразітычныя слаі і структуры грамадства і прыгнечвае крэатыўныя, аж да знішчэння.

### Беларусь стала іншай

Склалася іншая дзяржава: з іншым народам, эканомікай, спадзяваннямі стваральных слаёў грамадства.

Вас завальваюць смеццем праблем, плётак, драбязы сельсавецкага маштабу. Чаму гэта працягваецца да сёння?

Шэленберг тлумачыў, што цішыня кабінета, дываны, вышкаленыя ад'ютанты, безумоўнае выкананне загадаў стваралі ілюзію непарушнасці ладу нават пасля рэалізацыі формулы «фюрар капут, а мы выканаўцы».

Беларусь пасля 19 снежня стала іншай дзяржавай, а пасля 19 лютага прызнана сусветнай супольнасцю як чужароднае ўтварэнне ў цывілізаванай Еўропе.

### Перманентны ваенны стан

Дзяжурства і кругласутачнае патруляванне ўзброеных фарміраванняў усіх родаў і ведамстваў; кругласутачны неабмежаваны надгляд усіх грамадзянаў і памяшканняў; цэнзура сілавых структур над усімі СМІ, выразанне любое інфармацыі, не дазволенай сілавікамі; абсалютны кантроль над усімі фінансавымі аперацыямі прыватных і юрыдычных асобаў; прэвентыўныя зняволенні; кантроль і адключэнне інтэрнэту і сувязі.

Гэты ліст даслаў у «Нашу Ніву» Уладзімір Іскрык. Пісьменнік, раней ён працаваў у структурах Адміністрацыі прэзідэнта.

Гэта — яго адкрыты зварот да землякоў, кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Уладзіміра Макея і дзяржсакратара Рады бяспекі Леаніда Мальцава. (Мальцаў і Іскрык нарадзіліся пад Слонімам, Макей — каля Карэліч.)

> **Я шукаю вам апраўданні — і не знаходжу.**

Ах, як хочацца паўтарыць Леніна: «Расстраляць... заключыць у канцэнтрацыйныя лагеры ўсіх, хто думае інакш, чым мы напісалі ў нашых дэкрэтах».

Зазірніце ў свае акадэмічныя падручнікі, і вы ўбачыце, што з моманту, калі ГРУ Беларускай вайсковай акругі перахапіла ўладу Кебіча, фактычны ваенны стан не ўведзены законна, але і не адменены.

### Так кароў не пасуць

Чаму немагчыма эканамічнае развіццё? Вы прымушаеце карову есці тую купіну, куды тыцкаеце яе пысаю. Так кароў не пасуць.

Андропаўскі парадак азначаў улік працы, замест савецкага «ў групавым сэксе можна сачкануць». Ваша ж эканоміка азначае заахвочванне нерэнтабельнай вытворчасці — прэміі за страты. Дырэктар стратнага прадпрыемства мае столькі ж, колькі кіраўнік паспяховага, плюс датацыі. Хто з іх атрымлівае мінімалку — гадамі працуючы ва ўбытак?

### Беларусь працуе на «Газпрам»

Беларусь купляла на $100 сыравіны, месяц працавала і прадавала за $80. І ўсе былі задаволеныя! Гэта не эканоміка. Гаспадар у Беларусі не мог год працаваць, каб зарабіць воз дроў на зіму. Вы — можаце. Беларусь працуе на газ? На «Газпрам»? Зарабляе на Захадзе мільярды і аддае Маскве!

Як вы, разведчыкі, можаце верыць зладзеям, якія вам дакладваюць «тэмпы росту»? Няўжо вы не ведаеце, што пасля 5% інфляцыі статыстыка губляе сістэмнасць?

Пасадзіце ў падвал сяго-таго з урада, з падручнікамі палітэканоміі. Удзяўбіце ім, што РФ не сусветная «супердзяржава», а сярэдняя рэгіянальная. Хай успомняць геаграфію: супраць каго з суседзяў можа РФ павысіць голас — Канада, ЗША, Японія, Кітай, Казахстан, Іран, Турцыя? З якога часу расейскі рубель стаў валютай, дзе ён прызнаецца?

З андропаўскага тэзіса пра зароблены рубель і дысцыпліну мы маем самадурства начальнікаў. Чаму вы не ўзялі з Андропава яго забарону будаваць АЭС пад Мінскам?

### Страта кіраванасці

Карныя структуры разрастаюцца для кантролю над працоўнымі. Але да краху прывяло не толькі экстэнсіўнае развіццё органаў кіравання.

Вашы інструкцыі не выконваюцца ўжо ва ўрадзе. «Сілавік» адначасова высочвае, арыштоўвае, выносіць прысуд, сам яго выконвае, сам можа рэабілітаваць! Чаму адзеты як падвозчык кармоў са свінафермы можа хапаць мяне за руку і валачы ў машыну без абазначэння? Днём, у сталіцы! Хто з вас правядзе размежаванне, Лёня, Уладзімір?

Сістэма самавольства азначае страту кіраванасці ў дзяржаве. Сілавік, парушаючы інструкцыю, робіцца вышэй за вас, прэзідэнта, караля, Бога. Адсюль: я ахоўваю прэзідэнта, мне не да злачыннасці ў раёне.

### Час разабрацца з сілавікамі

Публічна было сказана пра супервыбухоўку. Яе нельга было зрабіць, не здаўшы ў акадэміі курсавую работу дыверсанта, тым больш што геній — хімік з ПТВ. Нават «лідар-профі» ці сам палкоўнік Квачкоў без лабараторнай трэніроўкі не пойдзе на акцыю.

Хлопцы, як выбухоўка атрадаў асаблівага прызначэння ГРУ Генштаба СССР трапіла ахламонам? Яна ж да гэтуль строга засакрэчана паводле ўліку?

Грубае, дэманстратыўнае парушэнне сілавікамі вашых інструкцый перанята бюракратыяй у форме самадурства — і вы бяссільныя, хлопцы.

> **У вас няма грошай? Дык выконвайце еўрапейскія правілы — і грошы будуць.**

Талковы тэзіс андропаўскай дысцыпліны — сёння ў прынцыпе акцыя запалохвання бюджэтнікаў, перш за ўсё настаўнікаў, каб не скрывілі рот: чаму сёння яны маюць палову заробку ад мая 2010-га?

### Я веру ў вашу прысягу

А што вы нарабілі з суверэнітэтам краіны? Крэмль гуляе ў СССР, прыдумляе міні-NATO, міні-ЕС, міні-МВФ. Ці дало гэта карысць Беларусі?

Я шукаю вам апраўданні — і не знаходжу. Калі вы ўжо не задураны агітпрапам «светлых гарызонтаў», то ўспомніце лекцыі, дзе сённяшні злодзейскі час разглядаўся аб'ектыўна?

Час выбраць, ад каго ваш — і наш! — радавод: ад лейтэнанта-танкіста Мальцава, які на галаўным танку адкрываў у 1939 у Брэсце парад Крывашэіна—Гудэрыяна, ад генерала-гулагаўца Мальцава ці ад бухгалтара Мальцава, які імкнуўся звесці канцы з канцамі ў калгасе, у якім і я працаваў з другога класа Чамяроўскай школы, дзе і ты вучыўся, Лёня.

Чаму вы абодва не адменіце інструкцыі 30-х гадоў, паводле якіх вынішчалася беларуская мова, інтэлігенцыя?

Ведаю, што вы спецыялісты, а не агітпрапаўцы. Але ж нашто траціць больш паловы бюджэту на дэмагогію?

### Паручыцель дома

Нельга перабрахаць усіх сабак на вясковай вуліцы, як спрабуе ваша прапаганда. Нельга жыць на магілках і рэанімаваць трупы, як ваша адміністрацыя і ўрад.

У вас няма грошай? Дык патрабуйце выконваць еўрапейскія правілы — і грошы будуць.

Запатрабуйце напрацоўкі, як пазбегнуць нацыянальнай катастрофы — у т.зв. апазіцыі, у тых, за кім двоечнікі ганяюцца з дубінамі, у інтэлігенцыі. Знайдзіце паручыцеля дома — і $10—12 млрд Беларусь атрымае.

### Страпяніцеся, землякі!

У нас з вамі адбіралі мову ў ВНУ (у цабе, Лявоне, у СВУ). Ніхто не пытаўся, проста выбару не пакінулі. Сёння ні радыё, ні ТБ, ні кніг, ні школы — пры немцах і паляках арэал беларускай мовы быў большы. Вы ж узяліся душыць і нсьбітаў.

За дзесяць гадоў ваша ідэалогія далдоніць адно і тое ж: стабільнасць, парадак на зямлі, прынцып аднаго акна — гэта мною сфармуляваныя тэзісы! Нічога новага не здолелі прыдумаць.

Сёння — поўны крах. Няўжо вы не ведаеце, што прадукцыйная палова грамадства проста не глядзіць вашага савецкага тэлебачання? Праверце: настаўніцы газет, кніг не чытаюць, вашых каналаў не глядзяць. Тое ж у вертыкалі. Дык для каго гэта дурнота? Вас пераконваць?

Я мог бы зрабіць запіску на дзве старонкі, але з-за вашага адгароджвання ад людзей мушу публікаваць гэты ліст.

Страпяніцеся, землякі! Вакол вас не ўся спітая ідыятызаваная Беларусь. Мы зноў вучымся ў Празе, Вільні, Рыме. Нас не трэба карміць. Дайце нам працаваць. Не заганяйце ў савецкую абшчагу і магніткі. Спыніце фінансаванне агітпрапу ўзроўню 40-х, саюзных камсамольскіх п'янак пад выглядам дыпламатыі; перайдзіце ад татальнай прапаганды да «клубнай» ідэалогіі еўрапейскай Беларусі.

Зразумейце: паводле вашых падручнікаў сітуацыя называецца: «Час паліць архівы».

*Друкуецца ў скароце.*
*Поўны варыянт — на nn.by.*

# Беларус у Адэлаідзе

**«Мінск — вельмі прыгожы і ўтульны. Беларусь — заходняя краіна. Але так здаецца, пакуль не выйдзеш з аўто і не загаворыш з людзьмі». Старшыня беларускага аб'яднання Паўднёвай Аўстраліі Віктар Кавалеўскі ўпершыню за дваццаць гадоў наведаў радзіму.**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Віктар Кавалеўскі**

нар. у 1956 у Радашковічах. Праз год сям'я пераехала ў Мінск. Скончыў вайсковую вучэльню. Служыў у тэхнічнай разведцы. У 1992 з сям'ёй выехаў у Аўстралію. Ад 1996 — старшыня беларускага аб'яднання Паўднёвай Аўстраліі.

У 1980-м Віктар Кавалеўскі, тады афіцэр вайсковай тэхнічнай разведкі, паклаў на стол партбілет. А ў 1992-м, калі здавалася, што ўсё толькі пачынаецца, з'ехаў з сям'ёй у Аўстралію. Сёлета, праз два дзесяцігоддзі, ён зноў наведаў Беларусь. Пра мінулае і цяперашняе, пра беларускія справы ў Аўстраліі, пра ўражанні ад сённяшняй Беларусі спадар Кавалеўскі расказаў карэспандэнту «Нашай Нівы».

### Партбілет на стол

«Ад мяне такога ніхто не чакаў. Я — савецкі афіцэр, служу ў тэхнічнай разведцы, за плячыма — шэсць гадоў у партыі. І раптам кладу партбілет на стол. Ішоў 1980-ы год», — прыгадвае Віктар Кавалеўскі. Выпускнік вайсковай вучэльні, служыў у Расіі, Казахстане, Кіргізіі. Перад ім ляжаў просты шлях вайсковай кар'еры, але ён вырашыў усё змяніць. Камандаванне відавочна разгубілася, а потым пачало апрацоўваць яго, ужываючы па чарзе то «пернік» — вярніся ў партыю і стань капітанам, то «бізун» — не вернешся, пойдзеш у пяхоту малодшым лейтэнантам. Віктар выбраў трэці шлях — звольніўся з войска. «Я не мог больш знаходзіцца ў партыі. Партбілет спрыяў кар'ернаму росту, і гэтым многія карысталіся. Я ж не хацеў такога жыцця». У ягонай сям'і ніхто не быў у партыі. Дзед быў з Заходняй Беларусі. Ад яго Віктар некалі даведаўся, што беларусы — гэта беларусы, рускія — гэта рускія. Гэтыя веды, магчыма, і сталі тым насеннем, з якога выраслі сумневы.

У 1983-м Віктар пайшоў працаваць інжынерам на мінскі завод «Калібр». Пры ўладкаванні не хаваў прычыны звальнення з войска, але, як ні дзіўна, да ягонага дысідэнцтва паставіліся спакойна.

**Парт-білет спрыяў кар'ернаму росту, і гэтым многія кары-сталіся. Я ж не хацеў такога жыцця.**

### Дэмакратыю не збудуеш за тры гады

Як так сталася, што дысідэнт і нацыяналіст эмігрыраваў у 1992-м, калі, здавалася б, у Беларусі ўсё толькі пачыналася? Спадар Віктар пачынае тлумачыць здаля: «Вялікабрытанія ішла да дэмакратыі стагоддзямі. Гадаваліся пакаленні людзей, выпрацоўваліся пэўныя каштоўнасці. У нас жа на той момант не было дастатковай колькасці інтэлектуалаў, каб за такі кароткі перыяд дасягнуць тых жа поспехаў і, галоўнае, замацаваць іх». Не было ў яго веры і ў поспех лідараў Адраджэння. Ён быў перакананы, што ідэі Пазняка былі занадта правымі, а таму непрымальнымі для многіх беларусаў.

«Мне цяжка меркаваць, наколькі змянілася сітуацыя ў Беларусі за дваццаць гадоў. Магчыма, наш лідар хутка з'явіцца. Можа, ён ужо сярод нас, а мо яшчэ толькі пайшоў у школу. Адчування хуткіх пераменаў у мяне няма, і, думаю, ніхто цяпер не скажа, калі яны здарацца. Але ўсё можа змяніцца зусім нечакана», — кажа Віктар пра сённяшні дзень. А тады, у 1992-м, яму, па яго словах, стала цяжка дыхаць у Беларусі. І ён разам з сям'ёй з'ехаў у Аўстралію. Чаму менавіта туды? Бо там ужо жылі родныя.

### «Я ганаруся сваімі дзецьмі»

Дзядзька Кавалеўскага, таксама Віктар, у вайну быў вывезены ў Нямеччыну на прымусовыя працы. Ажаніўся з немкай. Яе бацькі не ацанілі выбар дачкі і выгналі з хаты разам з мужам-беларусам. Немка выбрала каханне і сышла з няветлага бацькоўскага дома. У 1952 годзе яны з'ехалі ў Аўстралію. Акурат дзядзька і натхніў Віктара на ад'езд на пяты кантынент. Уладкавацца на месцы ўжо дапамагаў стрыечны брат.

Кавалеўскія пасяліліся ў Адэлаідзе, набылі старэнькі дом. «Дагэтуль яго рамантуем», — расказвае Віктар і падкрэслівае пры гэтым, што яго дзеці маюць свае ўласныя дамы — «добрыя і новыя». Ён вельмі ганарыцца сваімі дочкамі, бо яны ўпартыя, ведаюць, чаго хочуць. Старэйшыя — Аляўціна і Таццяна — маюць свой бізнэс. Малодшая Вікторыя вучыцца на архітэктара, адначасова працуючы. «Самастойна зарабіла сабе на легкавік, не залежыць ад бацькоўскіх грошай». Сам Віктар працуе кіроўцам у транспартнай кампаніі.

У сям'і Кавалеўскія размаўляюць на беларуска-англійскай трасянцы. «У Беларусі, дарэчы, таксама шмат англіцызмаў у мове сустракаецца — тут таксама кажуць «шопінг» і г.д.», — дзеліцца назіраннямі Віктар.

Беларускае свята №1 у Аўстраліі для Віктара — 25 сакавіка. Беларусы ідуць у мясцовы парк, накрываюць сталы. Абавязковыя атрыбуты — бел-чырвона-белы і аўстралійскі сцягі. «Збіраемся, віншуем адзін аднаго. Тут не трэба дазволу, каб збірацца больш за трое», — усміхаецца Віктар.

### «Няма той згуртаванасці, што была па вайне»

Па прыездзе ў Аўстралію Віктар далучыўся да тутэйшых беларусаў, пачаў наведваць Беларускую аўтакефальную праваслаўную царкву. Праз некалькі гадоў стаў сакратаром Беларускага аб'яднання Паўднёвай Аўстраліі, а ў 1996-м узначаліў яго і працягвае кіраваць ім да нашых дзён. Сёння суполка існуе фармальна, дзейнічае толькі камітэт. Ад ліквідацыі стрымлівае той факт, што беларусы шукаюць у Аўстраліі сваіх крэўных праз Чырвоны крыж, а той у гэтай справе звяртаецца акурат да аб'яднання.

«Няма той згуртаванасці, што была ў паваенных эмігрантаў. Раней усё трымалася на царкве. Касцяком былі беларусы, што прайшлі праз фільтрацыйныя лагеры. Тыя, хто не жыў усё жыццё пад бальшавікамі», — тлумачыць Віктар. Ён прыгадвае імёны Міхася Лужынскага, Аўгена Грушы, Міхася Зуя, Янкі Ролсана, Міхася Бурноса... Старэйшае пакаленне з недаверам ставілася да новай хвалі эмігрантаў з Беларусі, але дапамагала землякам, збірала грошы для чарнобыльцаў. «Камунізм нешта зрабіў з душамі людзей. Прыязджалі маладыя людзі, адукаваныя, разумныя, але не было сярод іх той еднасці, што была ў старэйшых».

Іншыя беларускія суполкі ў Аўстраліі перажываюць падобны крызіс. Сувязі між імі пакрысе згасаюць, кажа Кавалеўскі.

### Прыгажосць, страх і гонар

Сёлета Віктар упершыню з моманту ад'езду наведаўся ў Беларусь. Перад гэтым праехаў з дзясятак еўрапейскіх краін: Вялікабрытанію, Францыю, Нямеччыну, Швейцарыю, Італію. На радзіму трапіў праз Расію. Пасля расійскіх дарог і аўтамабіляў Беларусь падалася яму цалкам еўрапейскай краінай. Але гэтае ўражанне, транзітнае, як ён яго сам акрэсліў, трывала нядоўга. «Мінск — вельмі прыгожы і ўтульны. Беларусь — заходняя краіна. Але так здаецца, пакуль не выйдзеш з аўто і не загаворыш з людзьмі».

Другое моцнае ўражанне — колькасць п'яных на вуліцах. «Я столькі за дзесяць гадоў у Аўстраліі нецвярозых не бачыў, як за некалькі дзён у Мінску. Такое моцна кідаецца ў вочы».

А яшчэ кідаецца ў вочы страх, які, здаецца, працінае ўсіх яго знаёмых. Па назіраннях Віктара, людзі задумваюцца, перш чым пра нешта загаварыць, адказаць па тэлефоне.

Колькі дзён беларускага адпачынку Віктар правёў у сваякоў на Капыльшчыне. «Цікава, як вясковы люд рэагуе на эканамічныя праблемы. Вінаватыя ўсе: Расія, Польшча, ЗША. Гэта яны падстроілі крызіс, з-за іх растуць цэны і знікла валюта. А прэзідэнт харошы — сам з вёскі, разбіраецца ў калгасных справах». Пры гэтым, адзначае Віктар, вяскоўцы вельмі ганарацца сваёй краінай, яе дасягненнямі. А калі чаго яшчэ і не дамагліся, то ізноў жа — «перашкодзілі злыя суседзі».

Для сябе ж Віктар адзначыў, што беларуская вёска па-ранейшаму жыве бедна, але нібы не заўважае таго. Ягоная цешча была ў іх у Аўстраліі некалькі месяцаў, але той невялікі досвед жыцця за акіянам наўрад ці змяніў яе светапогляд.

### Мая радзіма там, дзе мая сям'я

Месяц у Беларусі мінуў хутка. Віктар пакуль не ведае, калі наступным разам прыляціць сюды. Пытаю ў спадара Віктара, ці не адчувае ён праз дваццаць год Аўстралію другой радзімай. «Я захоўваю да Беларусі самыя цёплыя пачуцці, але па-чалавечы адчуваю, што мая радзіма там, дзе мая сям'я, дзеці». У Аўстраліі ў Кавалеўскіх гадуюцца пяць унукаў.

**Сямён Печанко**

# У Мінск вяртаецца «Мотаршоу»



Аўтамабільная выстава «Мотаршоу» адбудзецца 20–25 верасня на тэрыторыі футбольнага манежа ў Мінску.

Будзе прадстаўлена больш за 150 аўтамабіляў, сярод якіх больш за два дзясяткі абсалютных навінак. «Мотаршоу» ў сілу розных прычын не праводзілася ў Мінску два з паловай гады; упершыню выстава адбудзецца восенню.

Выстава будзе працаваць з 10.00 да 21.00. Першы дзень выставы, 20 верасня, традыцыйна адводзіцца выключна для VIP-гасцей, і на гэты дзень білеты пакуль не прадаюцца. Паводле ацэнак арганізатараў, у дні правядзення выставы кошт звычайнага білета складзе да 50 тыс. рублёў, білета на VIP-дзень — 90–100 тыс. рублёў.

PHOTO.BYMEDIA.NET

## ФУТБОЛ

**На выхадных пройдзе 25-ы тур Чэмпіянату Беларусі па футболе.** 17 верасня: «Гомель» — «Тарпеда-БЕЛАЗ», «Мінск» — «Белшына», «Нёман» — «Дынама» (Мінск), «Дняпро» — «Дынама» (Брэст). 18 верасня: БАТЭ — «Нафтан», «Віцебск» — «Шахцёр».

## ХАКЕЙ

**У рамках КХЛ на «Мінск-Арэне»** адбудзецца гульня «Дынама» (Мінск) — «Тарпеда» (Ніжні Ноўгарад).

## ІМПРЭЗЫ

### Незвычайная энцыклапедыя

**24 верасня а 19-й у Тэатры беларускай драматургіі** — канцэрт-прэзентацыя кнігі «Незвычайная энцыклапедыя беларускіх музычных інструментаў».

### Dialogue design/ Дызайн дыялогу

**Да 9 кастрычніка ў Мінску** — фестываль графічнага дызайну «Dialogue design/ Дызайн дыялогу». Удзельнікі фестывалю польскія і беларускія дызайнеры і дызайн-тэарэтыкі Давід Кажэква, Хакоба, Homework, Францішак Отта, Міраслаў Адамчык, Шымон Салінські, Нікадзім Прэнгоўскі і Рэнэ Вавжкевіч.

### «Млын» у «Дудутках»

**17 верасня ў «Дудутках»** — рок-канцэрт «Млын». Сродкі, сабраныя з гэтага мерапрыемства, пойдуць на рэканструкцыю млына — помніка народнай архітэктуры пачатку XX ст. У канцэрце возьмуць удзел: Litesound, IQ48, Seven Seals, «Мутнаевока», «Асценія», «Без Панікі», «Вектар Эга». **Пачатак у 11.30.**

### Месяц нямецкай літаратуры ў кнігарні «ЛогвінаЎ»

**У кнігарні «ЛогвінаЎ» (пр. Незалежнасці 37а)** працягваецца месяц нямецкай літаратуры. **17 верасня (субота)** — Нон-стоп паказ 3 стужак рэжысёра Фатыха Акіна на нямецкай мове. **Пачатак а 14-й.** Уваход — вольны. **19 верасня (панядзелак)** — Творчая вечарына перакладчыка Васіля Сёмухі. **Пачатак а 19-й.** **26 верасня (панядзелак)** — Сустрэча са швейцарскім пісьменнікам Йенсам Нільсэнам. **Пачатак а 20-й.**

## КАНЦЭРТЫ

### Жывы Тузін

**16 верасня ў паб-клубе «Графіці» (зав.Калініна, 16)** інтэрнэт-партал «Тузін Гітоў» сімвалічна падвядзе рысу пад музычным сезонам 2010—2011. У гэты дзень пройдзе цырымонія ўзнагароджання выканаўцаў галоўных гітоў, якія трапілі ў «Залаты Тузін- 2011». У гала-канцэрце возьмуць удзел гурты ZnaROCK, «Жнюв», Akute, а таксама госці з Украіны — гурт «Фіолет». **Пачатак а 19-й.**



### Рапсодыя ў стылі блюз

**21 верасня ў Джаз-клубе Яўгенія Уладзімірава (Палац Рэспублікі)** — канцэрт легенды фартэпіяннага джаза Арта Анусаўскаса «Рапсодыя ў стылі Блюз». **Пачатак а 19-й.**

### Луі Армстронг і…

**21 верасня ў кавярні «Лісіная нара» (вул. Каліноўскага, 32)** — вакальны гурт «Камерата» з праграмай «Луі Армстронг і іншыя…». **Пачатак а 19-й.**

### Вечары джазавых легендаў

**18 і 25 верасня ў бары «Каўт» (пр.Незалежнасці, 117а)** — вечары джазавых легендаў. **Пачатак а 20-й.**

**Хостэл «Джаз» (вул. Мазырская, 37а) 24 верасня** запрашае на «Польскі вечар» на прэзентацыю прац маладых дызайнераў з праекта Etnoprojekt. **Пачатак а 19-й.**

### Ірландскія танцы

**Фолк-гурт «Рагнеда» і ансамбль ірландскага танца Bass dance 27 верасня** а 19-й выступіць на сцэне Вялікай залы Белдзяржфілармоніі.

### Адыс Абеба

**20 верасня а 19-й у «Графіці»** — Адыс Абеба.

### Алесь Камоцкі

**22 верасня а 21 у «Містралі» (вул. Валадарскага, 22)** — канцэрт Алеся Камоцкага.

### Наталля Ліпніцкая

**Малая зала імя Р.Шырмы запрашае 26 верасня** на канцэрт лаўрэата міжнародных конкурсаў Наталлі Ліпніцкай (гітара). **Пачатак а 19-й.**

### Noize MC

**30 верасня ў клубе «RE:Public» (вул. Прытыцкага, 62)** выступае Noize MC — адзін з найлепшых расійскіх фрыстайлераў, безумоўная велічыня расійскага хіп-хопа. **Пачатак у 19:00.**

## ВЫСТАВЫ

### Хлебная і кандытарская справа-2011

**7-я міжнародная спецыялізаваная выстава «Хлебная і кандытарская справа-2011»** працуе да 16 верасня ў Нацыянальным выставачным цэнтры **(вул. Я.Купалы, 27).**

### 3 > 1

**У мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» (Кастрычніцкая пл., 1) да 24 верасня** дэманструецца праект «3> 1. Частка II», на каторым можна ўбачыць тры фотавыставы: «Партрэт Сусвету» Эдварда Гжэгажа Функе (Польшча), «Адлюстраванні» Людмілы Войды (Гродна) і «Старонкі з дзённіка» Сяргея Ждановіча (Мінск).

### Чурлёніс

**У Мастацкім музеі да 30 верасня працуе выстава, прысвечаная 100-годдзю з дня смерці Мікалоюса Канстанцінаса Чурлёніса.**



Творчасць Чурлёніса — сінтэз мастацтва і роздумаў на філасофскія, псіхалагічныя і рэлігійныя тэмы. У яго творах змяшаныя сімвалізм, рамантызм, сецэсія, ёсць рысы і абстракцыянізму.

### Млыны Беларусі»

**Да 18 верасня ў Гістарычным музеі (вул. Маркса, 12)** працуе выстава жывапісных работ Віктара Нямцова «Млыны Беларусі». Віктар Нямцоў займаецца вывучэннем ветракоў і вадзяных млыноў у розных рэгіёнах Беларусі. Яны вабяць мастака шматзначным і адметным выглядам. Нямцоў займаецца гістарычна-жывапіснай рэканструкцыяй — на яго карцінах з занядбаных рэштак зноў узрастаюць асілкі-млыны.

## ТЭАТРЫ

### 14 верасня

**Беларускай драматургіі** — «Палёты з анёлам»
**Оперы і балета** — «Лебядзіная возера»
**Купалаўскі** — «Памінальная малітва»

### 15 верасня

**Купалаўскі** — «Хам»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»
**Оперы і балета** — «Кармэн»

### 16 верасня

**Лялек** — «Чароўныя падарункі»
**Оперы і балета** — «Шчаўкунок»
**Беларускай драматургіі** — «Жан і Беатрыса»
**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»

### 17 верасня

**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»
**Юнага гледача** — «Кот у ботах»

### 18 верасня

**Юнага гледача** — «Брык і Шуся шукаюць лета»
**Лялек** — «Чароўная лямпа Аладзіна»
**Оперы і балета** — «Снягурка»

### 19 верасня

**Беларускай драматургіі** — «Хто пакахае мадам?»
**Купалаўскі** — «Самотны захад»
**Оперы і балета** — «Жызэль»

### 20 верасня

**Купалаўскі** — «Офіс»
**Оперы і балета** — «Травіята»
**Беларускай драматургіі** — «Чорны квадрат»

### 21 верасня

**Беларускай драматургіі** — «Містар Розыгрыш»
**Юнага гледача** — «Мой бедны Марат»
**Оперы і балета** — «Стварэнне свету»

### 22 верасня

**Лялек** — «Шлях у нябёсы»
**Беларускай драматургіі** — «Нязваны госць»
**Оперы і балета** — «Яўгеній Анегін»

### 23 верасня

**Юнага гледача** — «Тарас на Парнасе»
**Беларускай драматургіі** — «Чайка»
**Лялек** — «Чайка. Спроба прачытання»
**Оперы і балета** — «Бахчысарайскі фантан»

### 24 верасня

**Лялек** — «Мыйдадзір»
**Юнага гледача** — «Дзюймовачка»
**Беларускай драматургіі** — «Воўк-мараплавац»
**Оперы і балета** — «Бальмаскарад»

### 25 верасня

**Лялек** — «Кот у ботах»
**Юнага гледача** — «Тры парсючкі»
**Купалаўскі** — «Тэатр Уршулі Радзівіл»
**Оперы і балета** — «Дон Кіхот»

## КІНО

### Прыгажуня-забойца ў абцягваючым адзенні

**Каламбіяна (Colombiana)**
ЗША, 2011, каляровы, 107 хв.
**Рэжысёр:** Аліўе Мегатон.
**Ролі выконваюць:** Зоі Салдана, Жоржы Моль, Лені Джэймс, Амендла Стэнберг, Майкл Вартан.
**Жанр:** Баявік.
**Адзнака:** 4 (з 10).

Калі Каталіна была маленькай, мафіёзі забілі ейную сям'ю. Але дзяўчынка ўцякла ад забойцаў. Пасталеўшы, гераіня помсціць сваім ворагам, вынаходзіва выкарыстоўваючы сваю прыгажосць і баявыя прыёмы. Карціна Аліўе Мегатона — варыяцыя на тэму дзетак і прыгажунь-забойцаў, што адразу выклікае асацыяцыі з вядомымі фільмамі «Нікіта» і «Леон». Гэта не дзіўна — карціна спрадусаваная Люкам Бесонам і пастаўленая па ягоным сцэнары.

Асноўны акцэнт стужкі — актрыса Зоі Салдана, якая мяняе рыштунак, носіцца на экране ў абцягваючым адзенні, страляе без перапынку, часам пускае слязу і ахвотна плавае ў басейне з акуламі.

**Андрэй Расінскі**



# Куды паехаць у аксамітавы сезон?

**Адпачынак на зайздрасць** тым, хто ўжо вярнуўся з курортаў.

Сярэдзіна верасня—пачатак кастрычніка — выдатны час адзначыць для тых, хто цэлае лета ўкалваў у тлумным горадзе, а цяпер атрымаў магчымасць вырвацца з працы. Мора яшчэ цёплае, сонца высокае, а пляжы ўжо не перапоўненыя. Ды і за жыллё трэба плаціць менш. За тую ж суму, якую ў ліпені-жніўні трэба заплаціць у трохзоркавым гатэлі, цяпер можна спыніцца ў гатэлі 5* з харчаваннем «усё ўключана». Хай зайдросцяць тыя, хто ўжо адпачыў у ліпені!

Падчас крызісу галоўнае пытанне для беларусаў — колькі атрымаецца ашчадзіць? У параўнанні з сярэдзінай лета кошты ўпалі на $100—150 з чалавека. Напрыклад, зараз беларускія турыстычныя кампаніі прапануюць адпачынак у Турцыі на дваіх ў трох-чатырохзоркавым гатэлі на 8 дзён за $1000—1500. Пры гэтым варта ўлічваць, што мора ў Турцыі застаецца цёплым яшчэ і на працягу ўсяго кастрычніка. Даражэй атрымаецца адпачыць у Грэцыі — каля $1400—1800 на дваіх, прычым і тут сезон будзе ў самым разгары.

Ехаць у Крым і ў Сочы ў кастрычніку і нават у канцы верасня ўжо рызыкоўна — восень хутчэй за ўсё туды прыйдзе раней за вас. Падобная сітуацыя і з Балгарыяй. Адправіцца ў яе можна ўдвух і за $800—1000, але цёплага надвор'я не гарантуе ніхто.

У афрыканскіх краінах — Егіпце, Тунісе ці Марока — тэмпература за 30 градусаў трымаецца і ў кастрычніку, і ў лістападзе. Таму сапраўдных зніжак варта чакаць да зімы.

Вярнуўшыся з цёплага адпачынку, будзьце надзвычай асцярожнымі. Сумная статыстыка сведчыць, што каля паловы тых, хто адпачывае ў аксамітавы сезон, захворваюць пасля вяртання дадому. Рэзкі перапад тэмпературы прыводзіць у лепшым выпадку да насмарку, у горшым — да ангіны ці вірусных захворванняў. Каб зменшыць небяспеку хваробы, дактары раяць пакідаць некалькі дзён на акліматызацыю, а не бегчы на працу на наступны дзень. Каб расслаблены арганізм не замерз падчас вяртання з аэрапорта ці вакзала, вазьміце у запас некалькі цёплых рэчаў.

**Ягор Марціновіч**




Адпачынак у казачнай Чарнагорыі даражэйшы, але варты вытрачаных грошай.

**Плюсы «аксамітавага адпачынку»**

- Эканомія на выдатках
- Больш камфортны адпачынак — няма анамальнай спёкі, пляжы неперапоўненыя

**Мінусы «аксамітавага адпачынку»**

- Няўстойлівае надвор'е, большая верагоднасць патрапіць у сезон штормаў
- Анімацыя і забавы ўвосень прапануюцца ўсё менш разнастайныя
- Высокая рызыка хваробы пасля вяртання

**Транспарт**

## Сто прыпынкаў у Мінску абсталююць электроннымі табло

Сталічныя прыпынкі, размешчаныя у буйных перасадачных вузлах, а таксама на праспектах Незалежнасці і Пераможцаў, плануецца абсталёўваць электроннымі табло. Паводле абяцання намесніка гендырэктара «Мінсктранса» Віктара Тозіка, гэта адбудзецца ў першым паўгоддзі 2012 года.

Табло будуць інфармаваць пасажыраў пра тып транспартнага сродку, нумар, назву канцавога прыпынку і — галоўнае — адлюстроўваць час да прыбыцця бліжэйшага транспарту і наступнага за ім.

Устаноўка электронных табло на прыпынках — чарговы крок да стварэння ў Мінску аўтаматызаванай сістэмы кіравання грамадскім транспартам, заснаванай на спадарожнікавай навігацыі. Навігацыйнымі тэрміналамі ўжо абсталявана 100% грамадскага транспарту горада. Прылады дазваляюць у рэжыме рэальнага часу адсачыць, дзе знаходзіцца аўтобус ці тралейбус.

**БелТА**







Адзін з праектаў мінскіх табло (злева). А вось так выглядаюць табло ў Швейцарыі (унізе).

**Тэлевізар**

## Атака на ТНТ працягваецца

Белтэлекамаўскі праект ZALA таксама **спыніў трансляцыю** расійскага забаўляльнага канала.

Расійскі канал ТНТ апынуўся на мяжы канчатковага знікнення з кабельных сетак Мінска. 8 верасня трансляцыю спынілі інтэрактыўнае белтэлекамаўскае лічбавае тэлебачанне ZALA і праект «Інтэрактыўнае тэлебачанне» ад «Шпаркага дамавіка». Афіцыйнай прычынай называецца «высокі кошт кантэнту».

Разам з тым, Вячаслаў Аўдзееў, намеснік дырэктара кампаніі «АІТ-Вавілен», якая валодае ліцэнзіяй на трансляцыю ТНТ на тэрыторыі Беларусі, катэгарычна абвяргае дарагавізну канала. «Сёлета наша кампанія практычна ў 2 разы паменшыла аплату за трансляцыю. Акрамя таго, мы адмовіліся ад прывязкі да колькасці абанентаў і спыніліся на фіксаванай абаненцкай плаце».

Атакі на ТНТ пачаліся ў чэрвені 2011 года, калі дзясяткі кабельных аператараў па ўсёй краіне перасталі паказваць расійскі канал. У іх ліку быў і МТІС, паслугамі якога карыстаюцца 85% мінчукоў. Сярод імаверных прычын нелюбові да канала называюцца жарты ў эфіры наконт палітычнай сітуацыі ў Беларусі.

**ЯМ**

**Аўто**

## Лідарам па продажы новых аўтамабіляў застаецца «Фальксваген»

Расійскія аўтамабілі **попытам не карыстаюцца**.

Пра гэта паведаміў старшыня праўлення Беларускай аўтамабільнай асацыяцыі Сяргей Міхневіч.

У апошнія месяцы, паводле яго слоў, брэнды, якія знаходзяцца ў сярэдняй і ніжэй за сярэднюю цанавой катэгорыі, развіваюцца вельмі актыўна. «Аб'ёмы продажу і ў «Рэно» нядрэнна ўзрастаюць, і ў «Форда», і ў «Фальксвагена», і ў «Пежо», — сказаў Міхневіч.

Разам з тым, продаж люкс-брэндаў прыкметна затармазіўся. Міхневіч растлумачыў гэта тым, што дарагія машыны да апошняга часу больш выгадна было завозіць фізічным асобам. «Калі браць увоз аўтамабіляў, вельмі шмат было ў першым паўгоддзі ўвезена аўтамабіляў «Таёта», «Лексус», БМВ, «Мерсэдэс», увезена фізасобамі ў вельмі добрай камплектацыі па льготнай мытні», — зазначыў ён.

**БелаПАН**

**Рэклама**

## Брэнд Lenovo распачаў рэкламную кампанію на беларускай мове

«Для тых, **хто дзейнічае**» — гучыць лозунг брэнда.

З пачатку верасня стартавала рэкламная кампанія сусветнага IT-брэнда Lenovo. У сваёй камунікацыі кампанія вырашыла выкарыстоўваць беларускую мову. На пытанне, чаму, адказаў Андрэй Калеснік, рэгіянальны прадстаўнік кампаніі ў Беларусі і Грузіі:

«Ля вытокаў вонкавай рэкламы на беларускай мове ў Беларусі стаяла мая жонка — Алена Ранцэвіч, якая была маркетынг-менеджарам кампаніі Samsung. Некалькі гадоў таму Samsung быў першай міжнароднай кампаніяй, якая прыняла рашэнне выбудоўваць камунікацыю на беларускай мове. Насуперак асцярогам партнёраў рэклама атрымалася на здзіўленне эфектыўнай і патрыятычнай. Далей гэты трэнд працягнулі YvesRocher, Hugo Boss і многія іншыя.

Што тычыцца адаптацыі слогана Lenovo: захаванне і валоданне ўласнай мовай для любой нацыі заўсёды было адным з кампанентаў самаідэнтыфікацыі свядомых яе прадстаўнікоў. Рашэнне адаптаваць слоган на беларускую мову — гэта пасільны ўклад у пашырэнне сферы выкарыстанне беларускай мовы ў краіне, якую я люблю».

**Marketing.by**




Беларускамоўныя білборды ўжо з'явіліся ў Мінску.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Тытул Міс Мінск заваявала 18-гадовая Ульяна Валахоўская. Студэнтка Інстытута імя Сахарава атрымала 30 мільёнаў рублёў і карону з белага золата, упрыгожаную дыяментамі і тапазамі. Ульяна была самай высокай сярод канкурсантак — яе рост аж 181 сантыметр. У той жа час яна зусім худзенькая, важыла на момант конкурсу ўсяго 53 кг, абхват грудзей 81 см, талія — 60 см, а абхват сцёгнаў — цэлых 93 см. Узнагароду яна атрымала з рук старшыні Мінгарвыканкама Мікалая Ладуцькі.**



**Трапіць у мінскае метро не проста, а вельмі проста, — пішуць расійскія блогеры, што наведалі беларускую сталіцу. «Кажуць, што гэта адна з самых ахоўваных сістэм метро, асабліва пасля тэрактаў. Усюды панаставілі камеры і датчыкі, але, нягледзячы на гэта, мы ўсё адно залезлі без прабем», — напісаў блогер raskalov_vit.**




РАДЫЁ СВАБОДА

**Новы мінскі Цэнтральны аўтавакзал, які адкрылі днямі, аформлены цалкам на расейскай мове.**




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Чарга ля касаў стадыёна «Дынама». БАТЭ пачаў продаж білетаў на матчы Лігі чэмпіёнаў. Гэтым разам вырашылі засцерагчыся ад скупшчыкаў. У адны рукі прадаюць толькі два квіткі.**

## Анекдоты

* * *

Вовачка на ўроку:

— Ядвіга Казіміраўна, а як правільна пісаць — «іканоміка» ці «эканоміка»?

— Улічваючы яе стан і мой заробак, Вовачка, — пішы, як хочаш...

* * *

На валютным рынку вяртаецца ліпень.

* * *

Дэкан ловіць студэнта за паленнем у прыбіральні ўніверсітэта.

— Які курс?

— 5400 па Нацбанку.

* * *

Пасля якой сесіі адлічаюць з Нацбанка?

* * *

— Добры дзень, а Саша выйдзе?

— Не, у яго пажыццёвае.

* * *

Колькі дрэваў можна было б ўратаваць, калі б Беларусь адмовілася ад сваёй валюты на карысць еўра.

* * *

На міжнародных спаборніцтвах па плаванні электрык Пятровіч замкнуў тройку лідараў.

* * *

Першакласніка цягнуць у школу. Ён моцна ўпіраецца і крычыць: «Адзінаццаць гадоў! За што!?»

## «НН» сто гадоў з вамі

**Раманава. Горацкі павет.** Дыякан В. навязаў каня на лузе дзячка П. Дзячок пайшоў забіраць каня, узяўшы з сабой стрэльбу, баючыся, як кажуць, што можа сустрэць шалёнага сабаку. Калі прыйшоў да каня, то знайшоў там дыякана з жонкай, якія пачалі з ім спрачацца, не даючы каня. Чы па абмылцы, ці ад болю сэрца дзячок стрэліў і лёгка параніў дыякана. Кансісторыя выдаліла са службы дзячка, нягледзячы на тое, што дыякан дараваў яму і яны памірыліся.

**«НН». №36. 1911.**

**Беларуская наменклатура не здужала перайграць Лукашэнку.** Адна «Хартыя-97» вяла змаганне лукашэнкаўскімі ж прыёмамі. Кампанія адзінага кандыдата разгортвалася млява. Грамадства лічыла яго застарым для высокай пасады. Разлікі на дапамогу ці хоць бы нейтралітэт Масквы разляцеліся ўшчэнт. Такія першыя высновы з вынікаў галасавання.

**«НН». №37. 2001.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7590. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 13.09.2011.
Замова №4415.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12